4 кастрычніка 2019 | № 37 (648)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144





**Цвярозая Літва**

Стар. 8

**4 КРАДУЦЬ УСЁ, АЛЕ ПАКУЛЬ НЕ ЎСЕ**

У прамой, адкрытай, сумленнай асобы шанцаў прыстасавацца да рэпрэсіўнай дзяржавы практычна няма, а менавіта ў такой дзяржаве ўсім нам выпала шчасце жыць

**5 ЯК СПЕЦСЛУЖБЫ ПАЛЮЮЦЬ НА МОЛАДЗЬ**



**6–7 ЦІ ЗВЯЗАНЫ «ПОЕДЕМ ПОЕДИМ» З «АФЁРАЙ ТЫСЯЧАГОДДЗЯ» Ў МАЛДОВЕ?**

Кампанія аднаго з уласнікаў «Поедем поедим» можа мець дачыненне да рэалізатараў найбуйнейшай фінансавай афёры апошняга часу

**11 ЛЁС НАМЕСНІКА МІНІСТРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БНР**

Ён быў беларускім консулам, ад'ютантам генерала Урангеля, заснаваў Беларускую народную Самапомач, яго не любіла Ларыса Геніюш...

# Каб абараніць незалежнасць, трэба проста размаўляць па-беларуску. Паўсюль

Зміцер ДАШКЕВІЧ

**Пагроза расійскай імперы была, ёсць, і, напэўна, яшчэ вельмі доўга будзе ў Беларусі. Я разважаў — чаму так адбываецца, чаму ў нас увесь час такая рыторыка пра страту незалежнасці?**

Я зразумеў, што адны людзі выходзяць з таго, што Беларусь, наша дзяржава і наша гісторыя — гэта Божы провід. Мы — парадокс, нас ніхто не хацеў з суседзяў, нас сотні гадоў выразалі — але ёсць незалежная дзяржава. Ёсць дзяржаўная мова — ужываецца ці не, але яна ёсць.

І ёсць людзі, якія разважаюць, што Беларусь — гэта збег нейкіх абставінаў і акалічнасцяў, і таму трэба кідацца ўправа і ўлева, каб знайсці тых, хто нас падтрымае. То Расія саюзніца, то Германія, то яшчэ нехта. Калі ты не пераканаены, што Беларусь ёсць, была і будзе, то ты ўвесь час будзеш турбавацца і кідацца ўправа-ўлева і крычаць: «Страта незалежнасці, нам усім хана!»

Другая праблема — безумоўна, існуе пагроза ад расійскай імперыі. І што нам варта рабіць, каб яе мінімізаваць? Я лічу, што кожны патрыёт мае самую магутную і простую зброю. Дзеля яе не трэба садзіцца ў турмы, не трэба пісаць прасціны тэкстаў, відэазвароты, ствараць новыя арганізацыі, рухі, кааліцыі. Трэба проста размаўляць па-беларуску, паўсюль. Выйшаў у краму — і гавары па-беларуску.

І гэта тое, што ўмацуе незалежнасць больш за ўсё. І мяне дзівяць людзі, якія выступаюць з рознымі ініцыятывамі пра тое, як трэба бараніцца, розныя арганізацыі ствараць. І ўся іхняя камунікацыя, уся іхняя дзейнасць рускамоўная. У той час, калі Пуцін кажа, што руская мова — гэта стрыжань расійскай імперыі і падмурак пад нагамі на постсавецкай прасторы, гэтыя людзі самі сваёй дзейнасцю ствараюць для Пуціна ўсю аргументацыю.

Калі б заўтра ўсе тыя, магчыма, 30 адсоткаў беларусаў, якія выступаюць за дзяржаўнасць толькі беларускай мовы, пачалі размаўляць толькі па-беларуску, не было б і думкі і згадкі ні пра якога Пуціна. Але яны працягваюць паўсюль карыстацца рускай мовай і распавядаць, якія яны барацьбіты за незалежнасць.

Трэці аспект — калі мы кажам пра акцыі. Я колькі гляджу за тым, як дэмакратычны рух арганізуе мерапрыемствы з лозунгамі кшталту «Заўтра вырашальны дзень у гісторыі беларускага супраціву, праверка баяздольнасці апазіцыі, шматтысячная акцыя», — усё гэта заканчваецца расчараваннем людзей. Людзі прыходзяць на акцыі, адны атрымліваюць дубінкай па галаве, іншыя сустракаюцца з праблемамі ў школе, на працы — а вырашальны дзень не настаў.

Мы так 25 гадоў жывём. І людзі расчароўваюцца яшчэ больш. І сёння вельмі важна ацаніць рэальны стан, у якім мы знаходзімся. І мне здаецца, Курапаты вельмі добра сведчаць пра той стан, у якім знаходзіцца незалежнае грамадства Беларусі. Калі ўважыць, што за год 500 ці тысяча чалавек паўдзельнічалі ў абароне Курапатаў — то гэта прыблізна тая лічба, на якую дэмакратычны рух можа разлічваць.

**Апроч змагарнасці трэба мець трошкі здаровага розуму**



Я згодны, што не ўсе нават прыхільнікі дэмакратычнага руху, не ўсе беларускамоўныя, не ўсе рускамоўныя патрыёты могуць прыйсці ў Курапаты. Але калі мы кажам пра апазіцыю, то для мяне гэта відавочна, што патэнцыя кожнай апазіцыйнай структуры — ад 10 да 50 чалавек. І калі б партыі гэта прызналі, то быў бы зусім іншы эфект. Для грамадства гэта быў бы станоўчы эфект, бо людзі зразумелі б, што гэтыя 50 чалавек нешта робяць.

Але апроч змагарнасці, трэба мець трошкі здаровага розуму. Часта людзі ствараюць небяспеку самі сабе, дражняць шалёнага сабаку, кладуць яму палец у рот і потым з выглядам вялікага змагара пакутуюць, што ім гэты палец грызуць.

Тое, што гэтыя людзі дзясяткі гадоў крычалі, што толькі байкот, а потым пайшлі на выбары; ганьбілі Канапацкую з Анісім, якія атрымалі мандат у «палатку», а цяпер самі пайшлі гэты мандат прасіць, — я таксама бачу ў гэтым нейкі Божы провід. Шапказакідальніцтва, завязанае з адарванасцю ад рэальнасці. Вынік будзе сумны.

Я да 2010 года прэзідэнцкую кампанію разглядаў як адзіную магчымасць, якую дае нам заканадаўства, той самы адзіны дзень раз на 5 гадоў, калі мы можам істотным чынам змяніць лёс Беларусі. Мы шчыра верылі, што гэта можна зрабіць, і клалі косці, каб гэта зрабіць.

І тады, у 2010 годзе, мы ўсе казалі пра Плошчу. А цяпер жа нават ніхто і не кажа, што «мы нешта зменім». Я не ведаю такіх людзей, палітыкаў, якія кажуць: «Мы пойдзем у прэзідэнцкую кампанію і нешта памяняем». Яны кажуць: нам трэба пагрэцца, партыйныя структуры разбудаваць і ўзмацніць, пазнавальнасць павялічыць. Але асабіста я не гатовы класці свой час, а тым больш сілы і здароўе, каб павялічыць чыюсьці пазнавальнасць.

На сённяшні дзень я прыйшоў да высновы, што Лукашэнка сам сябе зменіць. Няма ў Беларусі большага чалавека, які руйнуе гэтую сістэму злачынства і хлусні, як Лукашэнка. Ён гэта робіць вельмі паспяхова, і ён гэта даробіць, я думаю, неўзабаве.

Пытанне толькі адно. У той дзень, калі Лукашэнка даробіць сваю працу знішчэння самога сябе, ці застанецца ў Беларусі нехта пры памяці? Ці застануцца людзі, пра якіх прыхільнікі пераменаў змогуць сказаць — вось гэтыя хлопцы і дзяўчаты засведчылі, што яны нармальныя, і я гатовы за імі пайсці? Толькі адно пытанне — ці застанецца нехта ў дзень X пры памяці і адэкватныя?..

**Паводле інтэрв'ю «Радыё Свабода»**

# Студэнтаў пазбавілі інтэрнату дзеля перапісу?

**У БДУІР — кузні беларускіх праграмістаў — не здолелі прадаставіць месцы ў інтэрнаце ўсім першакурснікам. Ім вырашылі кампенсаваць арэнду жылля. Між тым, месцы ёсць.**

Як паведаміў TUT.BY прарэктар па выхаваўчай працы ўніверсітэта Дзмітрый Кузняцоў, БДУІР выдасць студэнтам разавую матэрыяльную дапамогу ў памеры 50 рублёў. Першакурснікі, якія не атрымалі месца ў інтэрнаце, аказалася каля 30 працэнтаў.

«Салідарнасць» паглядзела на сайце hata.by цэны на арэнду жылля: у сярэднім пакой можна зняць за 100 долараў.

На форуме talks.by напісала маці студэнта БДУІР, якая расказала, што яе сыну месца ў інтэрнаце далі толькі 3 верасня. Паводле яе слоў, блок па суседстве з пакоем сына цалкам пусты, а ў яго пакоі — два свабодныя месцы. Жанчына здзіўляецца, навошта іх прытрымліваюць, калі столькі студэнтаў засталіся без інтэрната: «Без месцаў засталіся і выдатнікі, і з некалькімі хадайніцтвамі. А ложкі стаяць пустыя».

Ёй патлумачылі, што вольныя месцы трымаюць для... валанцёраў перапісу насельніцтва!

«Вельмі многія знаёмыя засталіся без інтэрнату проста таму, што з навучальным графікам не хапае часу на грамадскія загаўнялкі. А хочаш інтэрнат — трэба нешта рабіць, проста за добрую паспяховасць ложка-месца ніхто не дасць. Ці на шкоду сесіі танцуй са сцягам на 3 ліпеня, ці ідзі здымай кватэру».

«Дзіўна, што яшчэ няма абвестак: «Маладая прыгожая адзінокая дзяўчына здасць ложка-месца маладому будучаму айцішніку», — іранізуе адзін з карыстальнікаў дыскусійнай пляцоўкі.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Жыхарам Слуцку прапануюць выбраць эскіз помніка слуцкім паўстанцам

Зінаіда ЦІМОШАК

**Сябры ініцыятыўнай групы ў падтрымку вылучэння кандыдатам у дэпутаты Аліны Нагорнай правялі ў Слуцку пікет, на якім уручылі жыхарам паштоўкі з запрашэннем абраць варыянт помніка на адмысловым сайце.**

Юрыст Ігар Случак паведаміў карэспандэнту НЧ, што Аліна Нагорная зарэгістравала сваю ініцыятыўную групу ў Слуцку дзеля таго, каб мець магчымасць легальна кантактаваць з насельніцтвам.

— Каб чарговы раз нагадаць случчанам пра падзеі на Случчыне 1920 года, сёння мы раздалі жыхарам горада паштоўкі, — распавёў Ігар Случак. — Спачатку ніхто не перашкаджаў працаваць з насельніцтвам. Але а 13-й гадзіне да нас падышлі супрацоўнікі міліцыі і папрасілі праехаць у РАУС. Дарэчы, міліцыянты былі ў цывільным, не хацелі прадстаўляцца. «Раскрыліся» толькі ў РАУС. Цікавіліся, хто мы і што робім. Пасля адпусцілі. Гэта затрыманне было незаконным, бо наша ініцыятыўная група зарэгістраваная і мае паўнамоцтвы для правядзення пікетаў. Пасля гэтага непрыемнага інцыдэнту праца была працягнутая ў іншым месцы.

Случак паведаміў, што ў партнёрстве з першым каталогам беларускамоўных бізнесаў і паслугаў "Сваё" створаны сайт 1920.by. Кожны можа зайсці на сайт і далучыцца да выбару помніка героям Слуцкага ўзброенага супраціву.

Як паведаміла Аліна Нагорная, у верасні 2019 года яна атрымала чарговыя адмоўныя адказы па месцы для ўсталявання помніка — на гэты раз ад Слуцкай праваслаўнай епархіі, каталіцкага касцёла і Слуцкага райвыканкама. У адказе, які падпісаў сакратар Слуцкага епархіяльнага ўпраўлення Мікалай Лабынька, размова ідзе аб непадтрымцы Праваслаўнай царквой ініцыятыў, якія могуць выклікаць грамадскае супрацьстаянне. У адказе з Каталіцкага касцёла выказваецца павага да змагароў за беларускую дзяржаўнасць, але ўказваецца, што там адсутнічаў рэлігійны характар, і ў збройным чыне бралі ўдзел не толькі каталікі, але і прадстаўнікі іншых хрысціянскіх канфесій. Намеснік старшыні Слуцкага райвыканкама Н. Чарнушэвіч зноў спаслалася на неабходнасць больш грунтоўнага аб'ектыўнага навуковага расследавання слуцкіх падзей 1920 года.

Аднак грамадскія ініцыятары ўсталявання помніка не складаюць рукі, а шукаюць новыя варыянты. Прапанова случчанам паўдзельнічаць у выбары эскізу помніка — гэта яшчэ адна магчымасць ажыўлення забытай гісторыі.

Амаль усе мінакі праявілі цікавасць да паштовак.

— Гэта наша гісторыя і ад яе нельга так адбрыквацца, — пакрытыкаваў адносіны ўладаў да помніка Мікалай Гараджанка, пенсіянер. — Трэба берагчы гістарычную памяць і сваіх герояў. Вунь, літоўцы не супраць, каб Кастусь Каліноўскі быў іх. Хутка суседнія краіны параздрабіюць усіх, хто спрычыніўся да нашай гісторыі, і нам нічога не застанецца.

Шмат хто гаварыў пра тое, што ў Слуцку мала помнікаў, і помнік слуцкім паўстанцам гораду б не зашкодзіў.

# У Бараўлянах працягваюць нішчыць дрэвы, нягледзячы на пратэсты мясцовых жыхароў

НЧ

**Жыхары пасёлка Вопытны гэтым разам сталі сведкамі вырубкі дрэваў уздоўж вуліцы Падлесная.**


Фота прадастаўлена Дзмітрыем Ляўчуком

Як паведаміў «Новаму Часу» мясцовы жыхар Дзмітрый Ляўчук, 1 кастрычніка субпадрадчык «Зелянбуд» расчышчаў маршрут для пракладкі сілавога кабеля, прызначанага для новай кацельні ў вёсцы Бараўляны. Пільныя жыхары збегліся на шум бензапілаў і спынілі работы да высвятлення абставінаў. Да месца высечкі даволі аператыўна прыехалі прадстаўнікі генпадрадчыка і старшыня Бараўлянскага сельсавета. Са слоў Верабей Ж. А. жыхары даведаліся, што рэканструкцыя кацельні з устаноўкай катлоў на мясцовых відах паліва вядзецца за кошт сродкаў Сусветнага банка, таму ў законнасці работ сумнявацца не варта.

Паводле Ведамасці выдаленых дрэў і кустоў, выдаленню падлягалі 123 дрэвы і 15 кустоў. У выніку былі па-варварску знішчаны нават хвоі, пасаджаныя ў якасці азелянення і добраўпарадкавання мясцовымі жыхарамі ўздоўж сваіх домаўладанняў (каля 1 метра ад плота). Калі б жыхары пра гэта ведалі загадзя, то змаглі б беражліва перасадзіць іх, зазначыў Дзмітрый Ляўчук.

«Па законе павінны быць кампенсацыйныя пасадкі, але да чаго потым яны, калі з практыкі большая частка дрэў не прыжываецца. А жывое — бяздумна выдаляем», — лічыць ён.

Ні Мінрайвыканкам, ні Бараўлянскі выканкам, якія ўзгаднілі працы, не палічылі патрэбным папярэдзіць аб маючых адбыцца працах ні Орган тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання пасёлка Вопытны, ні жыхароў.

«На жаль, усе прыгожыя лозунгі пра малую радзіму і неабходнасць мясцовага самакіравання застаюцца толькі на паперы. Больш за тое, мы назіраем працягператварэння Бараўлянаў у «спальнік» Мінска, калі масава будуецца камерцыйнае жыллё ў шкоду сацыяльным аб'ектам, якіх ужо катастрафічна не хапае ў раёне», — падсумоўвае Дзмітрый Ляўчук.

Нагадаем, у Бараўлянах з 2017 года ўлады спрабуюць вырубіць пяць гектараў лесу нібыта для будоўлі дзіцячага садка і школы. Аднак мясцовыя жыхары просяць пакінуць ім лес, які стаў улюбёным месцам адпачынку. У абарону лесу, у якім, дарэчы, ёсць некалькі відаў чырвонакніжнікаў, яны сабралі больш за 6 500 подпісаў. Пастаянна пішуцца звароты і вядуцца перамовы з мясцовымі ўладамі, а нядаўна, цалкам уласнымі сіламі, актывісты арганізавалі свята ў пасёлку на ўскрайку таго самага лесу, каб прыцягнуць увагу да праблемы.

# У беларускіх дзіцячых садках ставяць цацачныя аўтазакі: хто і навошта?

**На мінулых выхадных Браслаў прымаў абласныя «Дажынкі». На фота з тамтэйшага дзіцячага садка № 3, які адрамантавалі да свята, трапіла цацачная міліцэйская машына, усталяваная на гульнявой пляцоўцы. Ці то «Газель», ці то невялічкі аўтазак.**




«Дзецям вельмі спадабаліся новыя пясочніцы, арэлі, горкі, імправізаваныя машыны», — паведаміла газета «Браслаўская звязда».

Слухач «Еўрарадыё» Мікалай Бародка даслаў у рэдакцыю фота такіх жа цацачных аўтазакаў, усталяваных у дзіцячых садках у Салігорску. Хто іх паставіў і навошта? І галоўнае пытанне: як дзеці мусяць гуляць у міліцэйскай машыне?

«Ёсць у нас такая машынка, так. Мы нават першы час жартавалі, што дзеці будуць гуляцца з ёй як з аўтазакам — але не, такога, на шчасце, не было. Так не гуляюць, — расказвае «Еўрарадыё» Вольга Селязнёва, дырэктарка дзіцячага садка № 3 у Браславе. — Толькі садзяцца ўсе разам унутр, нібыта едуць кудысьці, уяўных бандытаў ловяць. А галоўнае — усім падабаецца».

Па словах дырэктаркі, падобных пляцовак у дзіцячым садку некалькі. На адной стаіць машына ратавальнікаў, на іншай — хуткая дапамога. А пляцоўка, пра якую ідзе гаворка, называецца зонай правілаў дарожнага руху. «Ужо нават прыходзілі супрацоўнікі ДАІ, расказвалі пра бяспеку і правілы на дарогах, — працягвае Вольга Селязнёва. — Побач з гэтай пляцоўкай ёсць запраўка, крама, кавярня. Такое знаёмства з прафесіямі атрымліваецца ў тым ліку».

Вырабам вялікіх цацак займалася наваполацкае прадпрыемства «Мірамет». Прадстаўнікі кампаніі ў размове з «Еўрарадыё» расказалі, што найбольшым попытам карыстаюцца машынкі МНС, а не «хуткай», міліцыі ці газавай службы. Міністэрства само актыўна заказвае іх з мэтай папулярызацыі сваёй працы.

На прадпрыемстве таксама адзначылі, што машынка на дзіцячай пляцоўцы каштуе ад 800 рублёў. Верхняга парога няма — усё залежыць ад пажадання заказчыка. Браслаўскаму дзіцячаму садку цацачны аўтазак каштаваў каля 1,5 тысячы рублёў.

**euroradio.fm**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Краіна для выжывання

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Увесну 1994 года тады яшчэ дэпутат Лукашэнка агаломшыў сваіх калегаў лічбамі: каля мільёна беларусаў у той час жылі за рысай беднасці, «накіроўваючы ўсе свае бедныя даходы на харчаванне». Цікава, што ён кажа цяпер, праз 25 гадоў свайго кіравання, калі бачыць «Статыстычны штогоднік Рэспублікі Беларусь»?**

Гэты дакумент падрыхтаваў Белстат. Паводле яго, 2 мільёны 667,1 тысячы беларусаў не могуць дазволіць сабе мінімальны набор тавараў і паслуг. Гэта тыя людзі, чые сярэднедушавыя наяўныя рэсурсы ў 2018 годзе не перавышалі мінімальны спажывецкі бюджэт у разліку на аднаго чальца сям'і з чатырох чалавек у месяц — 344 рублі.

Мінімальны спажывецкі бюджэт — гэта выдаткі на набыццё набору спажывецкіх тавараў і паслуг для задавальнення асноўных фізіялагічных і сацыяльна-культурных патрэбаў чалавека. МСБ прымяняецца як сацыяльны нарматыў для прагназавання змяненняў узроўню жыцця насельніцтва і ўзмацнення сацпадтрымкі тых, хто жыве ў нястачы. Сярэднедушавыя даходы трэба адрозніваць ад сярэдніх заробкаў.

Сярэднедушавыя наяўныя рэсурсы не перавышалі МСБ у разліку на аднаго чальца сям'і з чатырох чалавек у 2018 годзе ў 29,4% ад агульнай колькасці насельніцтва краіны. То-бок, у 2018 годзе траціна (!) насельніцтва «накіроўвала свае бедныя даходы на харчаванне».

Не дзіва, што людзі выжываюць, як могуць. За два апошнія месяцы даўгі беларусаў перад банкамі выраслі больш чым на мільярд рублёў. Увогуле, паводле іншай дзяржаўнай арганізацыі — Нацбанка, — на 1 верасня беларусы завінаваціліся банкам 13 мільярдаў 72 мільёны рублёў.

Іншымі словамі, за два апошнія месяцы даўгі грамадзян выраслі на 1,14 мільярда рублёў. Для параўнання: за першыя шэсць месяцаў года сума доўгу вырасла на 975 мільёнаў рублёў.

Нагадаем, што з 2018 года Нацбанк імкнецца абмежаваць выдачу спажывецкіх крэдытаў насельніцтву праз розныя правілы і механізмы. У прыватнасці, была ўведзена норма, па якой выплата па крэдыце не павінна перавышаць пэўны працэнт ад заробку чалавека. Так рэгулятар, па-першае, спрабаваў перасцерагчы банкі ад праблем сплатаў па крэдытах, а па-другое, скасаваць такія ж праблемы ў насельніцтва.

Але гэта, як пішуць у СМІ, «слаба стрымлівае жаданне беларусаў купляць у растэрміноўку і браць мікрапазыкі». Дый як яно можа стрымаць, калі людзям больш нічога не застаецца, як браць крэдыты, — проста на выжыванне.

Пры гэтым адбываецца тое, пра што папярэджвалі эксперты, — праўда, пакуль яшчэ бачнае не па ўсёй краіне. Таму што нам пра гэта не расказваюць. А вось дзяржаўная (зноў жа) газета Шаркаўшчыны «Кліч Радзімы» прыўзняла покрыва таямніцы.

За першае паўгоддзе 2019 года ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ў Шаркаўшчынскім раёне колькасць зарэгістраваных злачынстваў вырасла на 15%. Пры гэтым у грамадскіх месцах было здзейснена ў 2,6 разы больш злачынстваў, чым за першыя шэсць месяцаў 2018 года, а рост злачынстваў, учыненых у стане алкагольнага ап'янення, склаў 80%.

Пры гэтым у Шаркаўшчынскім раёне вырасла колькасць людзей, якія стаяць на наркалагічным уліку: калі на 1 студзеня 2018 года такіх было 428 чалавек, то праз год стала ўжо 453 чалавекі. У 2017 годзе ў раёне рэалізоўвалася 3,65 літра алкагольных напояў на чалавека, а ў 2018 годзе гэты паказчык вырас да 3,85 літра.

**Лідары па самазабойствах сярод мужчын — тры краіны, найбольш уцягнутыя ў «інтэграцыйныя» працэсы на постсавецкай прасторы: Расія, Казахстан, Беларусь. Міжволі задаешся пытаннем: ці не звязана гэта з усялякімі ЕАЭС ды Мытнымі саюзамі?**

Па словах пракурора Шаркаўшчынскага раёна Андрэя Вецюгова, у большасці выпадкаў злачынствы здзяйсняліся па прычыне адсутнасці грашовых сродкаў, неабходных для набыцця прадуктаў харчавання, у тым ліку па прычыне нізкай заработнай платы асуджаных, а таксама наяўнасці запазычанасці па выплаце заработнай платы!

Такім чынам, людзі ішлі на злачынствы з-за адсутнасці грошай на прадукты! Гэта ўжо не «мільён збяднелых» па Лукашэнку ўзору 1994-га, гэта ўжо людзі ў галечы і даведзеныя да адчаю! І вельмі цікава было б паглядзець — статыстыка злачынстваў па краіне паўтарае сітуацыю асобна ўзятага раёна?

Таму не вельмі здзіўляюць і дадзеныя Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, паводле якіх Беларусь увайшла ў ТОП-5 краін у свеце па самазабойствах сярод мужчын. Паводле лічбаў гэтай арганізацыі, першае месца па мужчынскіх самазабойствах займае Расія — 48,3 самагубствы на 100 тысяч чалавек. Другое месца ў дадзеным непачэсным рэйтынгу заняла Літва з 47,5 самагубцаў на 100 тысяч. Трэцяе — Гаяна з 46,6 суіцыдаў. За імі ідуць Казахстан з 40,1 самагубцаў, і Беларусь, дзе добраахвотна расталіся з жыццём 39,3 мужчын на 100 тысяч чалавек.

Гэта надзвычай цікавая статыстыка. Таму што яна вельмі дзіўным чынам накладаецца на палітычную мапу свету. Лідары па самазабойствах сярод мужчын — тры краіны, найбольш уцягнутыя ў «інтэграцыйныя» працэсы на постсавецкай прасторы: Расія, Казахстан, Беларусь. Міжволі задаешся пытаннем: ці не звязана гэта з усялякімі ЕАЭС ды Мытнымі саюзамі? Ці не «інтэграцыя» прыводзіць да такіх сумных наступстваў?

На фоне такой статыстыкі цікавыя і беларускія «выбары», асабліва ў сэнсе «прызначэнцаў» у парламент. Ён у нас, калі хто не памятае, двухпалатны. Пра другую палату — Савет Рэспублікі — заззвычай не згадвае ніхто. А між іншым Мінск ужо высунуў восем кандыдатаў у верхнюю палату парламента, адпаведнае рашэнне Мінгарвыканкам і Мінгарсавет прынялі ў аўторак.

Цікава не тое, хто ў тым спісе ёсць, а тое, каго сярод вылучэнцаў няма. А няма там, напрыклад, экс-прэм'ера і спікера Савета Рэспублікі Міхаіла Мясніковіча. Сярод кандыдатаў на сенатарскае месца няма і Марыяны Шчоткінай, якая ў бягучым складзе Савета Рэспублікі працуе віцэ-спікерам. Ад сталіцы не вылучаны і старшыня ФПБ Міхаіл Арда — ён таксама працуе ў бягучым складзе СР.

Канешне, тое не азначае, што гэтых людзей у верхняй палаце не будзе, — васьмярых сенатараў прызначае кіраўнік краіны. Але вельмі падобна на тое, што гэтыя людзі, якія доўгі час былі ва ўладзе і запомніліся беларусам сваімі скандальнымі выказваннямі і ўчынкамі, вырашылі ціхенька сысці ў цень. Каб не быць адказнымі за катастрафічную сітуацыю, што склалася ў краіне ў час іх паўнамоцтваў.

Канешне, усе мы ведаем, што ў краіне ўсё вырашае адзін чалавек. Але галоўная хіба такой сістэмы — што адзін гэты чалавек і адказны за наступствы сваёй палітыкі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Жамчужны



**Адміністрацыя калоніі №9 горада Горкі справакавала Міхала Жамчужнага прайсці ў атрад, дзе знаходзяцца асуджаныя «з нізкім статусам».**

Пасля месячнага знаходжання ў памяшканні камернага тыпу палітвязню вынеслі чарговыя спагнанні: 30 жніўня — 10 сутак ШІЗА за адмову ісці ў атрад, 6 верасня — пазбаўленне кароткатэрміновага спаткання за нібыта няякасную ўборку камеры.

Пасля адбыцця ШІЗА хтосьці з кіраўніцтва калоніі давёў да Жамчужнага інфармацыю, што ў атрадзе №3, куды быў прызначаны палітвязень, памяняўся склад асуджаных, і цяпер яму не варта баяцца за сваё жыццё і здароўе. У сувязі з гэтым яму настойліва рэкамендавалі прайсці ў атрад.

Міхаіл Жамчужны пагадзіўся і ў чарговы раз прыбыў у атрад. Іншыя асуджаныя сустрэлі палітвязня добра, аднак Міхаілу далі зразумець, што зараз у гэтай секцыі знаходзяцца людзі з «нізкім статусам». Зразумеўшы чарговую правакацыю, Жамчужны без прамаруджання пакінуў атрад. І 10 верасня яму вынеслі чарговае спагнанне за адмову ісці ў атрад — 10 сутак ШІЗА.

## Ганна Канапацкая



**Дэпутатка Палаты прадстаўнікоў не трапіла ў шэраг асобаў, якіх Аб'яднаная грамадзянская партыя вылучыла кандыдатамі ў дэпутаты.**

Кандыдатуру Канапацкай дэлегаты з'езду партыі не падтрымалі. Ёй закідалі пасіўнасць у гэтым складзе Палаты прадстаўнікоў, а таксама тое, што яна не выканала свае абяцанні — не дамаглася разгляду ў парламенце зменаў у выбарчае заканадаўства. Пры гэтым, паводле яе слоў, ёй нават не далі выступіць, а галасаванне па пытанні яе вылучэння праводзілася асобна, хаця яе кандыдатура раней была ўхвалена мінскай гарадской арганізацыяй партыі.

Акрамя таго, яна сцвярджае, што, не высунуўшы яе, партыя вылучыла кандыдатамі сяброў іншых арганізацый, якія фармальна аформілі сяброўства ў АГП. Сярод іх, па словах Канапацкай, былі прадстаўнікі грамадскай арганізацыі "Гавары праўду", якая «з першых дзён была чужой для АГП, ідэалагічным ворагам партыі».

Але пры гэтым Канапацкая не назвала канкрэтных імёнаў і не адказала кіраўніку штаба выбарчай кампаніі ў «Гавары праўду» Сяргею Вазняку на пытанне, хто менавіта з ГП вылучаўся кандыдатам ад АГП. Паводле Вазняка, усе прадстаўнікі ГП для свайго вылучэння збіраюць подпісы.

«У сітуацыі, якая склалася, я прымаю рашэнне прыпыніць сваё сяброўства ў АГП», — заявіла Канапацкая.

## Святлана Алексіевіч



**На кангрэсе Міжнароднага ПЭН-клубу ў Маніле Святлана Алексіевіч абраная віцэ-прэзідэнткай гэтай арганізацыі.**

Апрача Святланы Алексіевіч віцэ-прэзідэнтамі былі абраныя таксама Архан Памук (Турцыя), Элена Панятоўска (Мексіка), Люіса Валенсуэла (Аргентына), Францыска Сіаніль (Філіпіны).

Кандыдатуру Святланы Алексіевіч прадстаўляла прэзідэнтка Нямецкага ПЭНу Рэгула Вэнске. «Па-нашаму віцэ-прэзідэнты — гэта інстытут ганаровых старшыняў, — расказала ўдзельніца кангрэсу Таццяна Нядбай "Радыё Свабода". — Але ў нас ганаровым старшынёй можна стаць, толькі прайшоўшы прыступку старшыні, а ў Міжнародным ПЭНе "ганаровым" можна стаць таксама і такім чынам — праз галасаванне дэлегатаў Кангрэсу. Ганаровыя старшыні сваім аўтарытэтам умацоўваюць аўтарытэт арганізацыі і такім чынам таксама "прамаўляюць", што падзяляюць каштоўнасці і місію арганізацыі — у дадзеным выпадку ПЭНу».

ПЭН-клуб – міжнародная праваабарончая няўрадавая арганізацыя, якая аб'ядноўвае прафесійных пісьменнікаў, паэтаў і журналістаў. Мэта арганізацыі — садзейнічанне творчаму супрацоўніцтву пісьменнікаў усяго свету і іх аб'яднанню для падтрымкі «людзей слова», якія церпяць пераслед. Арганізацыя падтрымлівае пісьменнікаў, што знаходзяцца за кратамі, церпяць матэрыяльныя цяжкасці альбо замоўчваюцца палітычнымі рэжымамі, якія ўдзельнікі клуба вызначаюць як рэпрэсіўныя.

а | Азбука паліталогіі

# Крадуць усё, але пакуль не ўсе



Сяргей НІКАЛЮК

**Сацыёлагі «Лявада-цэнтра» для характарыстыкі постсавецкага чалавека часта выкарыстоўваюць прыметнік** «лукавый» **(«хітраваты, падступны»). Абмяжуюся адным прыкладам: «Чалавек наш хітраваты, ён думае, што ён сцерпіць, і яго не закране. Што кагосьці давядуць да галечы, а яго — не. Што ён паслухаецца і сцерпіць павышэнне цэнаў, але здолее атрымаць зарплату, з якой падаткаў не заплаціць, і пакрые тое павышэнне. Гэтая рыса з'яўляецца адной з самых трывалых» (Леў Гудкоў).**

Прычына хітраватасці «нашага чалавека» не хаваецца за сямю замкамі. У прамой, адкрытай, сумленнай асобы шанцаў прыстасавацца да рэпрэсіўнай дзяржавы практычна няма, а менавіта ў такой дзяржаве ўсім нам выпала шчасце жыць. Вось і даводзіцца спалучаць два ў адным: публічную дэманстрацыю лаяльнасці да дзяржавы і непавагу да яе.

Дзяржава адплачвае чалавеку той жа манетай. Прыгадаем адзін з базавых прынцыпаў, што забяспечваў сацыяльную стабільнасць у эпоху «дарагога Леаніда Ільіча»: «Дзяржава робіць выгляд, што плаціць, а мы робім выгляд, што працуем».

Між іншым, паводле афіцыйнай міфалогіі, савецкая дзяржава выказвала волю ўсяго народа. «Дзяржава — гэта я», — сцвярджаў Людовік XIV. «Дзяржава — гэта мы», — запярэчыў праз трыста гадоў каралю-сонцу Ленін. Яно, вядома, так, пагаджаліся з правадыром працаўнікі, але хітраваць працягвалі.

## Выдатныя працавітыя людзі

Падчас рабочай паездкі ў Магілёўскую вобласць адзінага палітыка (АП), калі вы памятаеце, не абышлося без чарговага публічнага адкрыцця. Цытую паводле прэс-рэлізу: «Расхлябанасць насельніцтва надзвычайная. Не хачу сказаць, што ўсе дрэнныя. Але крадзеж квітнее. Мне нават сорамна як прэзідэнту пра гэта гаварыць. Прытым крадуць усё, пачынаючы ад дызельнага паліва і бензіну. Нядаўна выявілі: адразу з поля збожжа вязуць дадому. Сталі нахабнымі да такой ступені, што нават не хаваюцца. Бяруць, як сваё. Вось гэта мы павыкарчоўваем з коранем».

Крадзеж квітнее. Для рэзідэнтаў «беларускай мадэлі» нічога новага ў гэтым адкрыцці няма. Надзвычайная расхлябанасць насельніцтва — наша нацыянальная рыса, нароўні з талерантнасцю і любоўю да дранікаў. Тут ужо нічога не зробіць. З раскрадальнікамі сацыялістычнай уласнасці сем дзесяцігоддзяў змагаліся камуністы. Яны і высылалі, і расстрэльвалі, і законы пра «тры каласкі» прымалі, але перамога засталася за раскрадальнікамі.

Шляхам навядзення жалезнай дысцыпліны крадзеж вось ужо чвэрць стагоддзя спрабуе выкарчаваць з коранем АП. Але як кралі, так і крадуць. Што да перспектывы, дык яе лёгка сабе можна ўявіць, і нават у варажбіткі няма чаго пытаць. Для тых жа, хто так і не навучыўся карыстацца інтэрнэтам, растлумачу: сінонімамі прыметніка ***«лукавый»*** з'яўляюцца прыметнікі «хітры», «падступны» і «зладзюкаваты».

«Не будзе дысцыпліны, арганізаванасці, — зноў сеў на свайго любімага канька АП, — мы ні адну праблему не вырашым. Калі вы хочаце, каб было лепш тут, а тут павінна быць лепш (у вас цудоўнае месца для жыцця)... Выдатныя працавітыя людзі! Трэба даць ім магчымасць працаваць і зарабляць. А тых, хто перашкаджае, мы да прытомнасці прывядзём».

Два выказванні стаяць у прэсрэлізе побач. Другое тлумачыць першае. Без яго было б немагчыма зразумець, хто канкрэтна нясе адказнасць за росквіт крадзяжоў. Але зараз усё стала на свае месцы. Гэта «выдатныя працавітыя людзі!»

Працавітасць — не перашкода клептаманіі. У «лукавого» чалавека першае служыць падмогай другому і наадварот. Шкада толькі, што свае жаданні і ўменні працаваць працавітыя клептаманы ў Касцюковічах не могуць рэалізаваць на практыцы, бо магчымасці працаваць і зарабляць мясцовая адміністрацыя дацы не здольная. Адчайвацца, аднак, не варта. Паабяцаў жа АП прывесці да прытомнасці тых, «хто перашкаджае».

Яшчэ адна цытата з прэс-рэлізу. Яе аўтар — жыхар Касцюковічаў: «Вялікі дзякуй за прыезд. А яшчэ вялікі дзякуй за тое, што вы патрабуеце. Не будзе вашай патрабавальнасці — не будзе нашай Беларусі. Адзіная рэспубліка наша без канфліктаў, без баёў, жыве спакойна. Працуем».

**Усе саслоўі ў нас ранжыраваныя ў залежнасці ад укладу ў забеспячэнне бяспекі ўлады. Першымі пры раздачы, натуральна, аказваюцца сілавікі і дзяржаўныя служачыя**

Вось такі ён, падступны чалавек. Кланяецца і дзякуе. Кланяецца і дзякуе. Наколькі шчыра? А хто ж яго ведае! Ці сам ён праявіў ініцыятыву, ці гэта прыклад хатняй нарыхтоўкі мясцовага ідэалагічнага «вертыкальшчыка»? І на гэтае пытанне адказу мы ніколі не атрымаем. Але, хутчэй, другое. Усё ж занадта лісліва кланяўся і занадта складна дзякаваў.




## І адвінчвае, адкручвае, адварочвае...

Механізм масавага ўзнаўлення ***«лукавого»*** чалавека — тэма для сур'ёзнага сацыялагічнага даследавання. На жаль, штатным сацыёлагам яна не цікавая. «У выніку, — як справядліва заўважыў АП, але з іншай нагоды, — у практычнай палітыцы даводзіцца ісці па «цаліне», прымаючы стратэгічныя рашэнні, як той казаў, ад жыцця. І дзякуй Богу, што пакуль гэты падыход, веданне самога жыцця даюць магчымасць пазбегнуць сур'ёзных памылак».

А жыццё пастаянна нагадвае практычным палітыкам, што захаваць сваю манаполію на ўладу яны могуць толькі шляхам зніжэння інтэлектуальнага і маральнага ўзроўню грамадства. Занадта разумныя, з усведамленнем уласнай годнасці не патрэбныя, больш за тое, яны небяспечныя. Нездарма ж падзеі 2014 года ва Украіне былі названыя «Рэвалюцыяй годнасці», а што можа быць страшней за Майдан!

Тактычныя перамогі даводзіцца аплачваць стратэгічнымі паразамі. На нарадзе ў Касцюковічах, у прыватнасці, на адрас мясцовых кіраўнікоў прагучаў папрок за адсутнасць усплёску дзелавой актыўнасці і скарачэнне колькасці занятых у эканоміцы. «Усё б нічога, — падкрэсліў АП, — калі стварылі высокатэхналагічныя вытворчасці, дзе, можа, замест сотні чалавек працуюць дзесяць».

Але ж хто будзе ствараць такія вытворчасці? Ці не той жыхар Касцюковічаў, які кланяўся і дзякаваў? Кіраваць хітраватым чалавекам вельмі зручна. Яму што ні скажы, што ні даручы, — ён не будзе пярэчыць і тут жа пакажа дзелавую актыўнасць. Лепш за сатырыка Міхаіла Жванецкага такі тып узаемаадносін хітраватага чалавека з дзяржавай яшчэ ніхто перадаць не здолеў:

«— У нас дзяржава рабочых і сялян, — кажа дзяржава.

— А як жа, — адказвае народ, — натуральна!

І адвінчвае, адкручвае, адварочвае.

— Усё, што дзяржаўнае, тое тваё, — кажа дзяржава.

— А як жа, — шэпча народ, — гэта так натуральна!

І адвінчвае, адкручвае, адломлівае».

Ад сябе дадам:

«І адвозіць збожжа з поля сабе дадому, стаўшы нахабным да такой ступені, што нават не хаваецца».

## Дзяржава — гэта што?

Эканоміка — наша ўсё. Пры гэтым неабходна памятаць, што беларуская мадэль пабудаваная на неразмеркавальным (дыстрыбутыўным) прынцыпе. Перш, чым «дзяржава для народа» будзе здольная максімальна ашчаслівіць кожнага, яна павінна кожнага максімальна абабраць. Сканцэнтраваўшы такім чынам у сваіх руках рэсурсы, дзяржава раздае іх, але не пароўну («гэта долька для вожыка, гэта долька для чыжыка»), а па справядлівасці.

Сучаснае беларускае грамадства, як і яго савецкі і дасавецкі папярэднікі, працягвае заставацца саслоўным. Адпаведна, і справядлівасць у нас саслоўная. Дзяленне грамадскага апельсіна на роўныя долькі яна не прадугледжвае. Усе саслоўі ў нас ранжыраваныя ў залежнасці ад укладу ў забеспячэнне бяспекі ўлады. Першымі пры раздачы, натуральна, аказваюцца сілавікі і дзяржаўныя служачыя.

«І апошнія стануць першымі», — сказана ў Святым Пісанні. Аднак чакаць сацыяльнай ракіроўкі можна да Другога прышэсця. Падступны чалавек гэта выдатна разумее, таму ўсю сваю працавітасць ды кемлівасць, у якой яму не адмовіш, ён накіроўвае на карэкціроўку афіцыйнага варыянту справядлівасці. Адвінчванне, адкручванне, адломліванне — самыя простыя і хаця б таму самыя папулярныя спосабы карэкціроўкі.

Хітраваты чалавек заўсёды супрацьстаіць дзяржаве, але заўсёды ў адзіночку. Асновай для фарміравання грамадства (нацыі) ён быць не можа. Тут трэба разабрацца ў паняццях. Зрабіць гэта лепш з дапамогай спецыяліста, напрыклад, сацыёлага Сімона Кардонскага: «Калі мы пытаем сябе: "дзяржава — гэта што?" — то мы выяўляем нейкую групу людзей, якая пераследуе ўласныя мэты, займаецца адміністрацыйным бізнесам і эксплуатуе хатнія гаспадаркі. Мы маем такую схему, дзе ў дзяржавы няма ні мэтаў, ні місіі, а ёсць група асобаў, што дбае пра свае асабістыя інтарэсы... »

«Што такое грамадства? Грамадства робіць тэлевізар. І паліттэхнолагі вельмі добра гэта зразумелі. У нас ёсць лакальныя, нічым не звязаныя супольнасці, якія нічога не ведаюць адна пра адну. Іх інтэгруе тэлевізійная карцінка».

Ляжаць на канапе і ўсведамляць сваю еднасць з такімі ж прыхільнікамі гэтага шаноўнага занятку — лепш, чым не ўсведамляць яе наогул. Аднак у практычным жыцці адвінчваць, адкручваць і адломліваць больш эфектыўна ў адзіночку.

# Як спецслужбы палююць на моладзь



Мікалай ДЗЯДОК

**Ператрусы і затрыманні ўдзельнікаў анархічнага руху фактычна сталі руцінай. Але падобна, што зараз у групу рызыкі трапляюць і тыя, сярод чыіх сяброў ёсць «экстрэмісты». Ці, прынамсі, міліцыя думае, што ёсць.**

Аляксею Ясюковічу 26 гадоў. Ён не ўцягнуты ў радыкальныя рухі, працаваў рамеснікам у сябе дома. Тым не менш, хлопец стаў фігурантам крымінальнай справы па артыкуле 130 КК РБ (Распальванне расавай, нацыянальнай ці рэлігійнай варажнечы ці розні).

Як кажа Аляксей, анархістам ён сябе ніколі не называў. Прытрымліваецца «антыаўтарытарных поглядаў». І наогул, ён вядзе жыццё звычайнага чалавека: «Мы з бацькам займаліся вырабамі з дрэва. Нейкі час я гуляў у футбол у DIY-лізе (ліга аматарскіх футбольных камандаў. — Заўв. аўтара), якая пазіцыянуе сябе антырасісцкай. Часам ездзіў у прытулкі да бяздомных сабак, займаўся дабрачыннасцю. Сярод маіх сяброў ёсць людзі, якіх міліцыя адносіць да экстрэмістаў, хаця яны нічога супрацьзаконнага не робяць. Максімум — кормяць бамжоў у «Ежы замест бомбаў». Працуюць. Звычайныя хлопцы і дзяўчыны».

Крымінальная справа пачалася для Аляксея з вяртання ў Беларусь. Да 2018 года ён жыў у Піцеры, а пасля вярнуўся ў Мінск — прыехаў да маці на некалькі дзён. І перад самым ад'ездам быў затрыманы.

Аляксей распавядае, што яго арыштавалі на прыпынку. Затрымлівалі АМАП і ГУБАЗіК. Гэта было 6 красавіка 2018 года. Пасадзілі ў машыну, завезлі ў СК і там прад'явілі абвінавачанне паводле артыкула 130 КК РБ за відэаролікі. Потым ён даведаўся, што падчас затрымання дома прайшоўператрус: забралі тэлефон і камп'ютар.

Відэаролікамі, якія, па меркаванні следства, «распальваюць міжнацыянальную варажнечу», аказаліся дакументальны фільм пра падзел Польшчы і «сцёбны» кліп рускага рэпера, размешчаныя ў УКантакце.

Ужо на прад'яўленні абвінавачання прысутнічалі аператыўнікі ГУБАЗіК.

Аляксея адвезлі ў ІЧУ, дзе ён прабыў два дні, адмовіўшыся ад дачы паказанняў. І ўсе два дні яны гэтаксама наведваліся да яго ў ІЧУ. Пры гэтым тыя самыя відэаролікі цікавілі міліцыянтаў менш за ўсё.

«Калі да мяне прыйшлі ГУБАЗаўцы, яны ўвогуле пра справу нічога не пыталіся. Іх цікавіла толькі маё атачэнне: з кім стасуюся, хто сябе лічыць анархістам. Маіх сяброў пры гэтым называлі па мянушках, прозвішчах. Пыталіся пра футбольную каманду: хто ў ёй грае і гэтак далей», — кажа ён.

Праз некалькі дзён Аляксея выпусцілі — але Следчы камітэт зацікавіўся яго роднымі: выклікалі бацькоў і сястру, распытвалі, як яны могуць яго ахарактарызаваць, якіх ён поглядаў прытрымліваецца, ці прымае ўдзел у «экстрэмісцкіх» арганізацыях. Сам хлопец падкрэсліў следчаму, што ніякіх радыкальных поглядаў не прытрымліваецца і лічыць сябе звычайным чалавекам, хіба што пацыфістам: «Лічу што ўсе мусяць быць роўныя».

Пасля затрымання год таму хлопцу дагэтуль не вярнулі камп'ютар і тэлефон. Затое ў лютым ён трапіў у ледзь не горшую сітуацыю.

Тады ён паехаў у лес адзначаць дзень народзінаў аднаго з сяброў. Але толькі прыехалі — хвілін праз 15 адусюль ліхтарыкі, усіх тварам у зямлю, у снег.

«Нас было 16 чалавек, з іх толькі чацвёра з DIY-лігі. Мяне паклікалі на дзень народзінаў. А калі мы пад'ехалі, усіх узялі АМАПаўцы. Са зброяй, драбавікамі, у масках, бронекамізэльках. Здымалі на камеру, трэба было назваць імя, прозвішча. На мяне: "А, зразумела, гэта Ясік". Я адразу падумаў, што гэта ГУБАЗіК, калі мяне пазналі па прозвішчы», — кажа маладзён.

Усіх хлопцаў закавалі ў кайданкі. Ён сам стаяў убаку з дзяўчынкамі. Сказалі, хто пабяжыць — у таго будуць страляць.

Маладзёнаў павялі кудысьці праз лес, пасадзілі ў аўтобусы, а Аляксея і яшчэ адну дзяўчынку — у легкавую машыну, і завезлі ў Бараўлянскі РУУС. Там усіх пачалі афармляць за «распіццё спіртных напояў».

Аляксея вывелі на калідор і пачалі распытваць: чым ён займаецца, чым збіраецца займацца і іншыя пытанні «за жыццё». Што ад яго хацелі — Аляксей сам дакладна не ведае: «Аператыўнік мне такія словы сказаў: "Нешта ў вас сумна было. Я думаў, што будзе павесялей". Я думаю, мо шукалі наркотыкі?»

У выніку гэтага масавага затрымання два чалавекі апынуліся ў ІЧУ. Потым іх судзілі і далі па 2 базавых штрафу за «распіццё». Наяўнасць у кампаніі непаўнагадовай дзяўчыны дазволіла яшчэ тром хлопцам даць штрафы за «ўцягванне няпоўнагадовых у антысацыяльныя паводзіны».

Пасля гэтага затрымання дадому да Аляксея пачаў ездзіць ГУБАЗіК. Апытвалі бацьку хлопца, маўляў, чаму сын не адказвае па тэлефоне. Шукалі Аляксея. Выклікалі хлопца ў Следчы камітэт.

Як кажа Аляксей, зараз справа фактычна стаіць на месцы, і яе далейшы лёс незразумелы. Апошні раз у СК яму задалі ўсё тыя ж пытанні, сфатаграфавалі татуіроўкі, прызначылі нейкую экспертызу, і пракурор даў СК час да 29 сакавіка «вырашыць нешта» са справай. Але на момант напісання артыкулу так нічога і не праяснілася.




**Прычына такой тактыкі — у патэнцыйнай небяспецы гарызантальных сувязяў для аўтарытарнай дзяржавы. Любыя згуртаваныя супольнасці замінаюць атамізацыі, расколу грамадства, узгадоўваюць базавую салідарнасць**

На пытанне, навошта цэлае антыэкстрэмісцкае аддзяленне ГУБАЗіК занялася двума відэаролікамі УКантакце, Аляксей адказаць не можа: «Гэта толькі нагода. Яны проста вырашылі завесці справу, каб паболей на мяне "накапаць" — бо я патрапіў у іх кола ўвагі. Многія з маіх сяброў на той момант былі анархістамі, некаторых пасадзілі. Аднаго, напрыклад, пасля "прыёмкі" анархістаў у 37-м тралейбусе (15 сакавіка 2017 года пасля дазволенага шэсця "недармаедаў", калі было затрымана больш за 50 чалавек). У яго на той момант быў умоўны тэрмін, а ў тралейбусе ён атрымаў адміністратыўку. Аднаго пасадзілі на ЛПП. Магчыма, з-за таго, што ў мяне ёсць сябры анархісты, яны падумалі, што я і сам анархіст».

Гэты выпадак можна было б палічыць эксцэсам ці чарговай спробай міліцыі «зрабіць статыстыку» па пасадках «экстрэмістаў». Калі б не тое, што адбылося 11 траўня.

Група моладзі — адна з каманд той самай DIY-лігі, — адпачывала ў Сендайскім скверы ў Мінску. Неўзабаве пасля таго, як яны сабраліся, да маладзёнаў пад'ехалі супрацоўнікі АМАП і людзі ў цывільным, і затрымалі ўсіх прысутных. Фармальнай нагодай стала распіццё спіртных напояў на вуліцы.

Аднак калі маладзёнаў (усяго 17 чалавек) даставілі ў Маскоўскі РУУС, у кабінетах з'явіліся супрацоўнікі ГУБАЗіК, якія пачалі высвятляць кола знаёмстваў затрыманых, пытацца, ці не ўдзельнічаюць яны ў «забароненых арганізацыях» і «футбольным руху».

Хлопцы і дзяўчаты правялі вечар у пастарунку. Аднаго з затрыманых, Яўгена Шыманскага, пасадзілі на 15 сутак.

Чаму нейкая саматужная футбольная ліга трапіла ў поле зроку «барацьбітоў з экстрэмізмам»? Дзеля чаго ў цэнтры гораду дзясяткі супрацоўнікаў АМАПу робяць аблавы на моладзь, якая не мітынгуе і не абмяркоўвае планы скідання ўлады?

Можна, канешне, западозрыць ГУБАЗіК у паранаідальным страху і здольнасці бачыць экстрэмістаў за кожным дрэвам, аднак наўрад ці іх супрацоўнікі такія ўжо сляпыя ці празмерна падазроныя. Пасля шэрагу затрыманняў, пры наяўнасці асабістага дасье на кожнага, — хіба яны не разумеюць, што амаль ніхто з гэтай моладзі не з'яўляецца «экстрэмістам»? Безумоўна, ведаюць. Ці разумеюць ГУБАЗаўцы, што гэтыя людзі — яўна не радыкалы, якія клеяць улёткі, малююць графіці і ходзяць на мітынгі? Вядома ж, разумеюць — яны не дурні.

Разумеюць яны і тое, што наяўнасць у кампаніі з 17 чалавек аднаго-двух анархістаў яшчэ не робіць яе экстрэмісцкім зборышчам. Зрэшты, анархісты — таксама людзі, і ў іх таксама ёсць «звычайныя» сябры.

Тое, што міліцыянты робяць у дачыненні да DIY-лігі і сацыяльна актыўнай моладзі, — гэта сістэматычнае разбурэнне яшчэ адной моладзевай супольнасці. І нават ведаючы, што гэтая супольнасць непалітызаваная, што яна не займаецца вулічным актывізмам ці футбольным хуліганствам, сілавікі мэтанакіравана палююць на гэтых людзей.

За такімі дзеяннямі бачыцца больш шырокая стратэгія дзяржавы на разбурэнне і знішчэнне любых гарызантальных супольнасцяў. Стратэгія гэтая робіцца бачная, калі мы возьмем большую часавую рамку.

Пад прэс за апошнія тры гады трапілі футбольныя фанаты (масавыя пасадкі на вялізныя тэрміны), шэраг рэлігійных груп (складанне адміністрацыйных пратаколаў за несанкцыянаваныя сходы ці раздачу ўлётак), панк-хардкор субкультура (рэгулярныя «маскі-шоу» на канцэртах), ЛГБТ-супольнасць (аблавы на вечарынах). І гэта толькі тое, што трапіла ў СМІ. Як бачым, палітызаванасць ужо перастала быць абавязковым крытэрам для таго, каб трапіць пад рэпрэсіі. Цяпер пад падазрэннем усе, хто можа хоць неяк арганізавацца і зрабіць нешта разам — ці тое раздача ежы бяздомным, паездкі ў дзіцячыя дамы, сумеснае хаджэнне на сектар стадыёна альбо проста размовы аб палітыцы.

Прычына такой тактыкі — у патэнцыйнай небяспецы гарызантальных сувязяў для аўтарытарнай дзяржавы. Любыя згуртаваныя супольнасці замінаюць атамізацыі, расколу грамадства. Яны ўзгадоўваюць базавую салідарнасць, каштоўнасці, альтэрнатыўныя «кожны сам за сябе», ствараючы сярод людзей адчуванне далучанасці. Прамой і яўнай небяспекі для рэжыму яны не нясуць. Але ў выпадку сацыяльнага выбуху такія групы — прынамсі, частка з іх, — змогуць стаць той глебай, з якой вырасце народная самаарганізацыя. Справы ж у нашай дзяржавы па ўсіх франтах ідуць усё горш, таму варта чакаць, што гэты трэнд сілавікоў будзе мацнець працяг і ўзмацненне.

Рэпрэсіўныя органы добра зразумелі, што трэба зрабіць, каб не было пераменаў. Але ці зразумелі мы, што трэба рабіць, каб яны былі?

# Ці звязаны «Поедем поедим» з «афёрай тысячагоддзя» ў Малдове?

Дзяніс ІВАШЫН

**Вынікам новага расследавання стала інфармацыя пра тое, што з актывамі ўласнікаў рэстарацыйна-забаўляльнага комплексу «Поедем поедим» (колішні «Бульбашъ-холл») звязаныя парушэнні заканадаўства, ліквідацыйныя працэсы, і нават следчыя дзеянні ў межах крымінальных справаў. А кампанія аднаго з уласнікаў «Поедем поедим» можа мець дачыненне да рэалізатараў найбуйнейшай фінансавай афёры апошняга часу.**

## Украіна

Зачэпкай для новага расследавання сталася наяўная інфармацыя пра крымінальную справу, распачатую следчымі органамі Украіны ў дачыненні да ўжо ліквідаванай кампаніі ТАА «СК Б.Т.С.» — супольнага актыву Леаніда Зайдэса і Барыса Сурыса. Пра ўкраінскія актывы ўласнікаў «Поедем поедим» — польска-ўкраінскі холдынг ТАА «МАГ-2000» і кампанію ТАА «СК Б.Т.С.» — мы ўзгадвалі яшчэ ў самым першым расследаванні. Доля Зайдэса і Сурыса ў кампаніі «МАГ-2000» складае 70%, столькі ж яны супольна мелі і ў ліквідаванай «СК Б.Т.С.».

Прадпрыемства «СК Б.Т.С.» з'явілася адным з самых першых супольных актываў Зайдэса–Сурыса і было зарэгістраванае ў 1994 годзе ў Кіеве. Кампанія займалася будаўніцтвам і грузаперавозкамі, а таксама дзейнічала на рынку каштоўных папер, у выніку чаго прыцягвалася да адказнасці праз здзейсненыя правапарушэнні. Нягледзячы на тое, што кампанія ліквідаваная, яна дасюль мае падатковую запазычанасць. Калі ў траўні 2018 года сума запазычанасці была 51000 грыўняў, то станам на 20.08.2019 агульная запазычанасць перад мясцовым бюджэтам складае ўжо амаль 2,17 мільёна грыўняў (больш за 86 тысяч долараў).

У красавіку 2018 года, за некалькі месяцаў да ліквідацыі «СК Б.Т.С.», два разы змянялася арганізацыйна-прававая форма кампаніі — спачатку яна была рэарганізаваная ў прыватнае акцыянернае таварыства, аднак ужо праз два тыдні ёй вярнулі першапачатковую форму. Вызначана, што кампанія СК Б.Т.С.» была ліквідаваная шляхам далучэння да другой кіеўскай кампаніі Зайдэса–Сурыса «МАГ-2000» у чэрвені 2018 года, якая з'яўляецца зараз яе праванаступніцай.

Кампанія «МАГ-2000» была зарэгістраваная ў 2000 годзе ў Кіеве. Яна займаецца вытворчасцю навагодніх і калядных тавараў, мае завод у Слуцку. Характэрна, што супраць гэтага другога ўкраінскага актыву Зайдэса–Сурыса была распачатая крымінальная справа праз прыкметы крымінальнага правапарушэння, прадугледжанага часткай 5 артыкула 191 КК Украіны (прысабечванне, растрата маёмасці або завалоданне ёю шляхам злоўжывання службовым становішчам). Следства падазравала службовых асобаў ТАА «МАГ-2000» у раскраданні ў 2015 годзе бюджэтных грошай на суму больш за паўмільёна грыўняў (на той час амаль 19 500 долараў). Станам на сёння мы не маем афіцыйна пацверджанай інфармацыі адносна спынення гэтай справы.

Сталі вядомыя асаблівасці новай крымінальнай справы, распачатай ужо ў дачыненні ліквідаванай «СК Б.Т.С.». Галоўнае ўпраўленне Дзяржаўнай фіскальнай службы (ДФС) па Кіеве праводзіць дасудовае расследаванне паводле прыкметаў здзяйснення крымінальнага злачынства, прадугледжанага часткай 1 артыкула 212 КК Украіны. З хадайніцтва старшага следчага ГУ ДФС па Кіеву Ігара Сукача Пячэрскаму раённаму суду прыйшлося па наданне часовага дазволу на доступ да рэчаў і дакументаў кампаніі вынікае, што службовыя асобы ТАА «СК Б.Т.С.» у перыяд з 2015 па 2018 гады праз ужыванне няслушнай стаўкі зменшылі сплату арэнды за зямельную дзялянку на агульную суму амаль 1,7 мільёна грыўняў (звыш за 66 тысяч долараў), то-бок ухіліліся ад сплаты падаткаў, прадугледжаных заканадаўствам. Гэта спрычынілася да фактычнага непаступлення ў бюджэт фінансавых сродкаў у значным памеры.

Згодна з рашэннем суда, старшаму следчаму, падпалкоўніку падатковай міліцыі Ігару Сукачу, а таксама 13 чальцам яго следчай групы нададзены часовы доступ да арыгіналаў дакументаў кампаніяў ТАА «СК Б.Т.С.» і «МАГ-2000».

З матэрыялаў следства вынікае, што ў снежні 2000 года ТАА «СК Б.Т.С.» ухваліла з Кіеўскай гарадской радай дамову на права часовага доўгатрывалага карыстання зямлёю тэрмінам на 24 гады для эксплуатацыі ды абслугоўвання складскіх будынкаў, якія таксама мела права здаваць у субарэнду. Арэндаваная зямельная дзялянка з агульнай плошчай 1,1118 га знаходзіцца на вул. Радыстаў, 73 у Дзяснянскім раёне Кіева, там жа знаходзіцца і ТАА «МАГ-2000».

Гэта тэрыторыя ўваходзіць у вядомую ва Украіне мясцовасць Быкоўня, у якой знаходзіцца «Быкаўнянскія магілы» — найбольшае ва Украіне месца пахавання ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў 1937–1941 гадоў і польскіх афіцэраў з так званага «катынскага спісу». У 1930-я гады ў гэтай мясцовасці, як і ў Курапатах пад Мінскам, быў створаны спецаб'ект НКУС. Паводле розных ацэнак навукоўцаў, у «Быкаўнянскіх магілах» колькасць пахаваных можа сягаць ад 30 да 100 тысяч і нават больш асобаў, закатаваных савецкім рэжымам.



Мемарыяльны комплекс «Быкаўнянскія магілы» / mfa.gov.ua

У межах дасудовага расследавання вызначана, што з 2008 года па канец красавіка 2018-га «СК Б.Т.С.» здавала ў арэнду ўласныя складскія памяшканні кампаніі ТАА «Дэвілон». Мы вырашылі спраўдзіць і знайсці ўсю наяўную інфармацыю пра гэтую кампанію, якая зараз фігуруе ў матэрыялах новай крымінальнай справы і можа быць нейкім чынам звязаная з уласнікамі «Поедем поедим».

ТАА «Дэвілон» (укр. ТОВ «Девилон») зарэестраванае ў снежні 1998 года ў Кіеве. Асноўным відам дзейнасці з'яўляецца неспецыялізаваны аптовы гандаль. Аднаасобны ўласнік кампаніі — Беразоўская Алена Анатолеўна.

Пра Алену Беразоўскую вядома, што яна нарадзілася ў 1965 годзе, скончыла сярэднюю школу №7 у Слуцку і Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А.М.Горкага.

Цікава, што, згодна з пазначанымі ў адкрытым доступе рэгістрацыйнымі дадзенымі, бенефіцыяраў кампаніяў ТАА «МАГ-2000» і ТАА «Дэвілон» Леанід Зайдэс і Алена Беразоўская маюць ідэнтычны адрас пражывання ў Мінску.

## Беларусь

З дапамогай адкрытых крыніцаў інфармацыі вызначана, што кіеўская кампанія «Дэвілон» уваходзіць у Групу кампаніяў «Девилон», самае першае прадпрыемства якой было адкрытае на тэрыторыі Беларусі ў 1994 годзе. Група мае свае актывы ў буйных гарадах Расіі, Украіны і ў Беларусі. Спецыялізуецца перадусім на аптовым гандлі дзіцячымі цацкамі, канцылярскімі таварамі і навагоднім асартыментам.

Паводле інфармацыі, нададзенай Міністэрствам юстыцыі Беларусі, ТАА «Дзевілон» зарэгістравана 7 красавіка 1994 года адміністрацыяй Ленінскага раёна Мінска. Асноўным відам дзейнасці з'яўляецца таксама неспецыялізаваны аптовы гандаль таварамі. Напачатку кампанія імпартавала ў Беларусь парфуму і дэкаратыўную касметыку ізраільскай вытворчасці, аднак затым пераарыентавалася на імпарт з Расіі і Кітая панчохава-шкарпэтных вырабаў, дзіцячых цацак і канцылярскіх тавараў.



Дом побач з Цнянскім вадасховішчам, у якім, паводле рэгістрацыйных дадзеных, пражываюць Леанід Зайдэс і Алена Беразоўская / Яндэкс

У сярэдзіне нулявых гадоў Леанід Зайдэс займаў у мінскім прадстаўніцтве «Дзевілон» пасаду намесніка дырэктара, а Алена Беразоўская выконвала функцыі менеджара. У склад уласнікаў прадпрыемства Беразоўская была ўведзеная яшчэ ў 2001 годзе, а з красавіка 2017 года яна мае статус аднаасобнага ўласніка кампаніі.

У 2015 годзе Брэсцкая абласная інспекцыя Дзяржстандарту выявіла небяспечную прадукцыю — школьныя ранцы кітайскай вытворчасці, якія рэалізоўваліся ў адным з гандлёвых сеціваў і імпарцёрам якіх у Беларусь з'яўлялася кампанія ТАА «Дзевілон». У выніку праверкі было вызначана, што гэтая прадукцыя не адпавядала патрабаванням тэхнічнага рэгламенту «Пра бяспеку прадукцыі, прызначанай для дзяцей і падлеткаў». Апроч гэтага, у выніку лабараторных даследаванняў на падставе здзяйснення дзяржаўнага санітарнага нагляду за абарачэннем цацак, і ў 2015, і ў 2016 гадах было вызначана, што некаторыя партыі прадукцыі, імпартаванай кампаніяй у Беларусь з Кітая, не адпавядаюць санітарна-эпідэміялагічным і гігіенічным патрабаванням, а таксама паказнікам бяспекі для дзяцей. У выніку выяўленых парушэнняў намеснік міністра аховы здароўя — галоўны дзяржаўны санітарны лекар РБ забараніў абарачэнне на тэрыторыі Беларусі партыі небяспечнай для дзяцей прадукцыі і абавязаў кампанію выняць яе з абароту.




Уваход у мінскі офіс кампаніі ТАА «Дзевілон» (пр. Пераможцаў, 7а, оф.56б, БЦ «Роял Плаза»).

Цікава, што на працягу амаль 13 гадоў разам з Аленай Беразоўскай саўласнікам кампаніі ТАА «Дзевілон» да 2014 года быў Віталь Леанідавіч Мархасін. Ён з'яўляўся асноўным заснавальнікам ТАА «Антасам», над пасадовымі асобамі якой у 2014 годзе пачаўся судовы працэс за крымінальныя злачынствы, здзейсненыя, паводле вынікаў следства, падчас будаўніцтва ў Мінску жыллёвага комплексу «Самоцветы».

Фігуранты крымінальнай справы абвінавачваліся ў крадзяжы грашовых сродкаў удзель-

нікаў долевага будаўніцтва, якое ператварылася ў даўгабуд. Паводле інфармацыі прэс-службы КДБ, у абвінавачаных былі выяўленыя 18 кілаграмаў золата ў злітках НБ РБ, аб'екты нерухомасці, транспартныя сродкі і вялікія сумы наяўных і безнаяўных грашовых сродкаў. Адметна, што разгляд крымінальнай справы тады асабіста анансаваў Аляксандр Лукашэнка, які раскрыў дадатковую інфармацыю, што акурат у золата Нацбанку пераводзіліся скрадзеныя ў дольнікаў грошы. Аднак пасля пэўнага часу трымання пад вартай Віталь Мархасін быў вызвалены і працягваў будаўніцтва жыллёвага комплексу. Сама ж кампанія «Антасам» з 16 ліпеня 2019 года знаходзіцца ў працэсе ліквідацыі, эканамічным судом Мінска з ліпеня 2019 года распачатая працэдура банкруцтва.

У красавіку 2017 года праз рэарганізацыю ў форме вылучэння з ТАА «Дзевілон» была створаная новая юрыдычная асоба — ТАА «Дзевілон М», якая юрыдычна знаходзіцца ў мястэчку Мачулішчы пад Мінскам. Кіраўніком і адзіным заснавальнікам кампаніі з'яўляецца Павел Мархасін, сын Віталя Мархасіна.

У 2011 годзе ТАА «Дзевілон» удзельнічала ў долевым будаўніцтве адміністрацыйна-складскога комплексу ў Мачулішчах з агульнай плошчай больш за тры тысячы квадратных метраў. Гэты вялізны гмах фігуруе зараз у рэгістрацыйных дадзеных кампаніяў, якія там юрыдычна знаходзяцца, у якасці «Адміністрацыйнага будынку «Дзевілон».

## Расія

Будаўніцтва гэтага комплексу прыпадае на залатыя часіны Групы кампаніяў «Дзевілон», актыўнае развіццё якой пачалося са стварэння напачатку 2000-х у Расіі цэлага сеціва гандлёвых апаратаў, з якім на працягу апошніх пяці гадоў адбыліся вельмі драматычныя падзеі.

Усе выяўленыя кампаніі Групы «Дзевілон» на тэрыторыі РФ кантралявала ТАА «Ренессанс», якое мела да 95% доляў у кожнай з іх, і з гэтай прычыны яе ўмоўна можна называць холдынгавай кампаніяй. Пра ТАА «Ренессанс» мы падавалі падрабязную інфармацыю ў трэцяй частцы цыклу расследаванняў пра будаўніцтва рэстарацыі «Поедем поедим» у ахоўнай зоне Курапатаў.

Барыс Сурыс з'яўляецца генеральным дырэктарам кампаніі «Ренессанс». Менавіта ёй належыць большая частка фірмы СТАА «КварталМЗС», праз якую яна кантралюе СТАА «БелРэстІнвест». З гэтай апошняй кампаніяй да 2106 года ўкладзеная дамова арэнды, паводле якой яна плаціць усяго амаль 117 долараў на месяц за 1,2 га зямлі, дзе збудаваны і пакуль яшчэ функцыянуе рэстарацыйна-забаўляльны комплекс «Поедем поедим».

Першымі двума прадстаўніцтвамі ў Расіі, падкантрольнымі ТАА «Ренессанс» Сурыса, сталіся ТАА «Девилон» і «Девилон М», створаныя ў 2002 годзе ў Санкт-Пецярбургу. Аднак з лета 2019 года абедзве гэтыя кампаніі знаходзяцца ў стадыі ліквідацыі.

Паводле дадзеных Федэральнай службы дзяржаўнай статыстыкі РФ (па-руску — Росстат), вынікам гаспадарчай дзейнасці «Девилон М» за 2017 год сталіся страты памерам у больш за 25 мільёнаў, а крэдыторская запазычанасць сягнула значэння звыш за адзін мільярд расійскіх рублёў. У траўні 2003 года ў Екацярынбургу была зарэгістраваная трэцяя кампанія групы, ТАА «Девилон-Урал», якая за апошні год сваёй дзейнасці перад ліквідацыяй таксама мела фінансавыя страты. У 2004 годзе холдынг адчыніў дзве свае новыя кампаніі ў Самары і Растове-на-Доне — ТАА «Девилон-Волга» і «Девилон-Юг» адпаведна, — па 5% доляў якіх кантралявала непасрэдна Алена Беразоўская. Апошняя кампанія групы — ТАА «Девилон-Нева» — была створаная, як і першыя дзве, у паўночнай сталіцы Расіі ў траўні 2006 года. Праз дзесяць гадоў, у чэрвені 2016-га, да яе далучылі екацярынбургскую і растоўскую кампаніі Групы, якія былі ліквідаваныя. Апроч гэтага Група кампаніяў «Девилон» таксама мела свае прадстаўніцтвы ў Новасібірску і Уфе. Паказальна, што кампанія «Ренессанс» Сурыса выйшла са складу заснавальнікаў усіх кампаніяў, што знаходзяцца зараз у стадыі ліквідацыі. З апошняй — ТАА «Девилон-Нева» — «Ренессанс» выйшаў у жніўні 2019-га.

Ад калісьці буйнога і разгалінаванага расійскага сеціва кампаніяў «Девилон» практычна нічога не засталося. Што ж сталася прычынай для такога хуткага падзення?

19 сакавіка 2019 года Арбітражны суд Санкт-Пецярбурга і Ленінградскай вобласці ўхваліў рашэнне пра задавальненне пазову ТАА «Девилон» да кампаніі Danbay Export LP з Вялікабрытаніі наконт патрабавання спагнаць з апошняй больш за 1,45 мільёна (!) долараў доўгу. Сталася гэта праз месяц пасля выхаду ТАА «Ренессанс» са складу ўласнікаў ТАА «Девилон» і за некалькі тыдняў да прыняцця рашэння пра ліквідацыю гэтай кампаніі. З матэрыялаў судовага працэсу вядома, што, паводле ўхваленага гэтымі кампаніямі 4 чэрвеня 2015 года кантракту, кампанія «Девилон» аплаціла аванс Danbay Export LP за пастаўку ёю партыі тавару, які, аднак, быў пастаўлены ў меншым аб'ёме. Адметна, што папярэдне абедзве кампаніі вызначылі падсуднасць у межах дамовы Арбітражнага суда Санкт-Пецярбурга, а таксама загадзя ўзгаднілі выкарыстанне прававой сістэмы РФ.



**Масавыя пратэсты ў Кішынёве, верасень 2015 года.** Фота moldova.org

## Вялікабрытанія і Сейшэльскія выспы

Усе гэтыя акалічнасці нам падаліся вельмі падазронымі, і мы вырашылі праверыць кампанію Danbay Export LP. У выніку былі здзейсненыя, калі з афіцыйных дадзеных дзяржаўнай рэгістрацыі даведаліся, што кампанія была створаная 12 траўня 2015 года — за тры тыдні перад падпісаннем кантракту на суму з сямізначнымі лічбамі ў доларах ЗША!

Згодна з інфармацыяй Рэгістрацыйнай Палаты (Companies House) Вялікабрытаніі, Danbay Export LP юрыдычна знаходзіцца ў сталіцы Шатландыі Эдынбургу ў доме на Royston Mains Street, 18. У гэтым жа доме, звычайным трохпавярховым жылым будынку ў Пілтане — адным з самых бедных раёнаў Эдынбургу, — зарэгістраваныя больш за тры сотні іншых кампаніяў.

Арганізацыйна-прававая форма кампаніі адпавядае таварыству з абмежаванай адказнасцю (LP — limited partnership). Уласнікамі кампаніі на момант яе стварэння былі іншыя юрыдычныя асобы — Brixton Ventures ltd і Trafford United ltd, якія, у сваю чаргу, зарэгістраваныя на Сейшэльскіх выспах.

Цікава, што дырэктарамі гэтых кампаніяў і ўласнікамі з'яўляюцца грамадзяне Літвы, якія пражываюць у пазначаным вышэй пілтанскім сціплым жылым доме, — Рэміжыюс Мікалаўскас (Remigijus Mikalauskas) і Вікторыя Зірнэлітэ (Viktorija Zirnelyte). У іх кватэры на першым паверсе гэтага дому зарэгістравана некалькі соцень фірмаў!

Мікалаўскас і Зірнэлітэ з'яўляюцца своеасаблівымі агентамі — прадстаўнікамі карпаратыўных паслугаў па стварэнні кампаніяў. Дасыць часта вынік падобнай дзейнасці — стварэнне падстаўных кампаніяў, якія ў рэчаіснасці існуюць толькі на паперы і выкарыстоўваюцца для трансферу сродкаў альбо актываў без фактычнай наяўнасці якіх-кольвек супрацоўнікаў альбо вядзення паўнавартаснага бізнесу. Збольшага, падобныя паслугі надаюць у невялікіх дзяржавах, якія ператварыліся на так званыя «падатковыя гавані» альбо афшоры, што надаюць сваім рэзідэнтам падатковыя льготы і не патрабуюць фінансавай справаздачы. Перадусім, гэта — Багамскія, Кайманавыя, Маршалавы і ўжо згаданыя Сейшэльскія выспы, а таксама некаторыя дзяржавы-выспы Карыбскага басейну і Акеаніі, цэнтральнаамерыканскія Беліз, Панама і шмат іншых. У большасці краінаў цывілізаванага свету прадстаўнікі дзелавых колаў і фінансава-крэдытных установаў унікаюць стасункаў з афшорнымі кампаніямі, якія вельмі часта выкарыстоўваюцца для адмывання грошай.

Паводле патрабаванняў заканадаўства, ухваленага ў Аб'яднаным Каралеўстве, брытанскія кампаніі пачалі з красавіка 2016 года раскрываць інфармацыю пра сваіх канцавых бенефіцыяраў. Вялікабрытанія стала адной з першых краінаў, якая зацвердзіла гэтыя патрабаванні на заканадаўчым узроўні. Гэта цалкам адпавядае рэалізацыі глабальнай дзяржаўнай праграмы падвышэння празрыстасці кампаніяў.

Згодна з новым законам, кампанія Danbay Export LP вымушаная была таксама раскрыць свайго бенефіцыяра альбо асобу з вызначальным кантролем, паводле тэрміналогіі Вялікабрытаніі. Гэтай асобай аказалася грамадзянка Ізраіля Аліна (Ала) Сурыс, маці Барыса Сурыса.

Яна з'яўляецца ўласніцай 24,5% ТАА «Белноватэкс груп», якому праз даччыную кампанію ТАА «Амізбел» належыць рэстарацыйна-забаўляльны комплекс «Поедем поедим».

Зазначаныя вышэй сейшэльскія кампаніі Brixton Ventures ltd і Trafford United ltd маюць дачыненне да стварэння яшчэ адной кампаніі — Fortuna United LP, зарэгістраванай з тым жа эдынбургскім адрасам, які мае Danbay Export LP Аліны Сурыс.


**Эдынбург, 18 Royston Mains Street / Google Earth**

## Малдова і «афёра тысячагоддзя»

Fortuna United LP звязаная з адной з самых гучных фінансавых афёраў апошняга часу — знікнення ў 2014 годзе з банкаўскай сістэмы Малдовы звыш за 1 мільярд (!) долараў. З дакладу, падрыхтаванага нью-ёркскай дэтэктыўнай агенцыяй Kroll і зробленага на замову цэнтральнага банку Малдовы, вынікае, што Fortuna United LP выступіла гарантам па пяці буйных крэдытах на агульную суму 13,7 мільярда леяў (прыблізна 1 мільярд USD).

У дакладзе падрабязна раскрытая досыць складаная махлярская схема вывядзення з малдоўскіх банкаў фінансавых сродкаў, эквівалентных восьмай частцы ВУП Малдовы, якая цалкам можа стаць асновай дэтэктыву пра фінансавыя махінацыі. Страта грошай стала падставай да эканамічнага і палітычнага хаосу ў краіне, выклікала абясцэньванне нацыянальнай валюты лея і падзенне ўзроўню жыцця. Вынікам былі акцыі пратэсту супраць карупцыі, адстаўка ўраду і рэалізацыя дзяржаўнай праграмы ратавання банкаўскай сістэмы Малдовы.

Назва пілтанскай кампаніі Fortuna United LP шмат для якіх малдоўцаў з гэтага часу пачаў асацыявацца выключна з адчаем, болем і гневам. Ці звязаная з ёй кампанія Danbay Export толькі супольнымі заснавальнікамі — афшорнымі кампаніямі з Сейшэлаў, — ці яна таксама задзейнічаная ў схеме рабавання банкаўскай сістэмы Малдовы — пытанне пакуль застаецца адкрытым.

Цікавай асаблівасцю тут ёсць тое, што ў выніку пачатку працэсу ліквідацыі і рэарганізацыі ў красавіку 2019 года піцерскай кампаніі ТАА «Девилон», у жніўні 2019 года з яе была вылучаная новая юрыдычная асоба — кампанія ТАА «Фортуна», яка і стала яе правапераемнікам. Вельмі дзіўнае супадзенне, калі, вядома ж, гэта яно і ёсць.

***

Усё гэта ёсць дадатковымі штрыхамі да агульнай карціны — супольнага партрэту тых, хто, нягледзячы на ўсю рызыку, іміджавыя і рэпутацыйныя страты, збудаваў у ахоўнай зоне народнай святыні забаўляльна-піцейную ўстанову «Поедем поедим».

Актывісты Варты абароны Курапатаў заклікаюць да грамадскага байкоту ўсіх актываў уласнікаў забаўляльна-рэстарацыйнага комплексу «Поедем поедим». На гэты момант вядома, што сярод гэтых актываў, апроч «Поедем поедим», маюцца мінскія рэстарацыі «Гранд Кушавель», «TheView», гандлёвыя брэнды і кампаніі «Наша ресторанная группа», «МАГ-2000», «Девилон» (Група кампаніяў «Дзевілон»), ТАА «Белноватэкс груп», «Амізбел», «Ренессанс» (РФ), «Арт-Инвест Групп» (РФ), «АгроПромСервис» (РФ), СТАА «БелРэстІнвест», «КварталМЗС» «Білсі», ТДА «Белтрансфер», ЗУП «Белтрансфер-Мед», Lenthon Realty LLC (US)) і іншыя. Таксама ім належаць афшорныя кампаніі, з якімі рэкамендуем патэнцыйным інвестарам пазбягаць якіх-кольвек стасункаў: Danbay Export LP, Bealcy Investments Ltd., Crowfoot Trading Ltd., Iliotropion Trade & Service Ltd., Tebridge Holding Corp.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. ОК — гэта ОК?

На Захадзе разгарнуліся незвычайныя дэбаты наконт таго, як трэба разумець вядомы жэст «ОК». Усё дзякуючы амерыканскай Антыдыфамацыйнай лізе (ADL), якая змагаецца з рознымі формамі дыскрымінацыі ў грамадстве. Сёння жэст «окей» выкарыстоўваюць, каб паказаць разуменне і згоду. У большасці выпадкаў ён бясшкодны і бяспечны. Аднак у 2017 годзе гэты сімвал атрымаў новы сэнс дзякуючы карыстальнікам рэсурсу 4chan. Юзеры прасоўвалі жэст як спосаб выказаць нецярпімасць і параўналі яго з літарамі WP, якія можна расшыфраваць як «white power» («улада белых»). На думку ADL, скажоная інтэрпрэтацыя жэсту «окей» сапраўды стала папулярнай формай тролінгу. Пазней прыхільнікі расісцкіх канцэпцый сышлі ад яго сатырычнай канатацыі і ўсур'ёз пачалі выкарыстоўваць сімвал як сродак падкрэслівання дамінавання белай расы. Напрыклад, у сакавіку 2019 года Брэнтан Тарант, які забіў амаль 50 чалавек у мячэці Новай Зеландыі, паказаў «окей» на судзе.

Ці сапраўды «ОК» забароняць у ЗША як экстрэмісцкі знак, пакуль цяжка сказаць. Між тым, днямі эксперт аднаго нямецкага фонду асудзіў маладога ўдзельніка шоу на канале ARD за дэманстрацыю гэтага жэста.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Народны конегадовец — ганаровы старэйшына

У туркменаў ёсць свой аналаг нашага Усебеларускага народнага сходу, які называецца Халк Маслахаты. Менавіта такі Халк Маслахаты прайшоў у мінулы ўік-энд у Ашхабадзе і не абышоўся без апалагетыкі Бердымухамедава. Спікер парламента заявіў, што раней парламентарыямі было прынята рашэнне — прысвоіць гаранту званне «Ганаровы старэйшына народа Туркменістана». Такога тытулу кіраўнік краіны, па словах спікера, варты за памнажэнне нацыянальных традыцый і звычаяў, умацаванне адзінства народа, выхаванне маладога пакалення і за ўзорны жыццёвы прыклад. Адразу пасля абвяшчэння рашэння пачалася афіцыйная працэдура. Пад бурныя апладысменты ўдзельнікаў форуму Бердымухамедаў папрасту на сцэне адзеў традыцыйныя туркменскія халат і папаху. Туркменскаму лідару таксама быў уручаны адпаведны нагрудны знак. Застаецца дадаць, што акрамя «Ганаровага старэйшыны народа», Бердымухамедаў носіць званне Героя Туркменістана (двойчы), а таксама тытулы «Народны архітэктар Туркменістана» і «Народны конегадовец Туркменістана». І наўрад ці на гэтым яго парад тытулаў закончыцца.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Найлепшая эміграцыя ў гісторыі

На фоне трывожных чутак пра тое, што з Азіі і Афрыкі ў кірунку Еўропы рухаецца новая хваля эмігрантаў, у Францыі ўзгадалі адзін цікавы юбілей. Сто гадоў таму, увосень 1919-га, польскі і французскі ўрад падпісалі дамову, паводле якой палякі маглі прыехаць і працаваць у Францыі. Такім чынам Францыя намагалася кампенсаваць страты працоўных кадраў у часы Першай сусветнай вайны. Аднак маштабы эміграцыі палякаў аказаліся беспрэцэдэнтнымі. Толькі да 1930 года іх колькасць вырасла з 40 тысяч да паўмільёна. Не спыніла міграцыйны паток і прапаганда французскіх правых, якія намагаліся зрабіць мігрантаў адказнымі за беспрацоўе. Палякі вельмі хутка інтэграваліся ў соцыум, чым выклікалі незадаволенасць польскіх нацыяналістаў. Тыя марылі, што мігранты захаваюць ідэнтычнасць, і ў перспектыве вернуцца на радзіму. Таксама іх непакоіла тэндэнцыя, калі палякі, звычайна пралетарыі, траплялі пад уплыў камуністаў. Вынікам стала фарміраванне сярод палякаў-мігрантаў сталага камуністычнага асяродку. Пасля вайны частка эмігрантаў вярнулася ў сацыялістычную Польшчу і была прызначаная на самыя высокія пасады. Факт, што польскія мігранты з часам цалкам ператварыліся ў звычайных французаў, сапраўды дазваляе назваць тую міграцыю ідэальнай.

**Паводле французскай прэсы**

### УКРАІНА. Лысы супраць Баксёра

Менавіта па такой формуле, хутчэй за ўсё, пройдуць выбары кіеўскага мэра. Пад Баксёрам маецца на ўвазе цяперашні мэр Віталь Клічко, які, як вядома, раней зрабіў сабе баксёрскую кар'еру. Што да Лысага, то гэта акцёр з шоу «95 Квартал» Яўген Кашавы, якога публіка ахрысціла Лысым. Паводле шэрагу СМІ, менавіта ён — найбольш верагодная кандыдатура на пасаду сталічнага мэра ад прэзідэнцкай партыі «Слуга народу». Самае цікавае ў супрацьстаянні — тое, што Кашавы ў «95 Квартале» парадзіруе Клічко. Робіць ён гэта вельмі добра і часам брутальна. З іншага боку, лёгкай перамогі ў кандыдата ад «Слугі народу» не будзе. Клічко за пяць гадоў знаходжання на пасадзе бургамістра набыў палітычны вопыт, навучыўся камунікаваць з прэсай, даваць папулісцкія абяцанкі і гэтак далей. Ці здолее Лысы перамагчы Баксёра, мы даведаемся, магчыма, ужо ў снежні. Тады, калі верыць плёткам, кіяўлянаў запросяць абраць гарадскога галаву.

**Паводле ўкраінскай прэсы**




Фота www.stav.aif.ru

# Цвярозая Літва

*Алег НОВІКАЎ*

**Спаўняецца тры гады прыходу да ўлады ў Літве партыі Саюз сялян і зялёных. Фішкай створанага імі ўраду стала беспрэцэдэнтная з часоў Гарбачова барацьба з «зялёным змием».**

Так склалася, што падчас выбарчых кампаній усходнееўрапейскія палітыкі звычайна робяць стаўку на папулісцкія абяцанні матэрыяльнага характару. У гэтым плане агітацыя Саюза сялян і зялёных на выбарах у Сейм у 2016 годзе выглядала трошкі незвычайна. У выпадку перамогі партыя абяцала выбаршчыкам спыніць алкагалізацыю краіны.

Такая праблема сапраўды існавала. На той час Літва ўтрымлівала першае месца па памерах спажывання моцных напояў у Еўропе. У сярэднім літовец ужываў штогод каля 13 літраў спірту. Для параўнання, жыхар суседняй Польшчы, якую цяжка назваць краем непітушчых, заліваў за каўнер на працягу года каля 10 літраў. Пры гэтым папярэдні літоўскі ўрад асабліва на гэты конт не напружваўся.

Палітолагі сцвярджаюць, што антыалкагольная рыторыка Саюза сялян і зялёных успрымалася «на ўра» выключна некаторымі сегментамі электарату — кабетамі і правінцыяламі. Хутчэй папулярнасці партыі спрыяла дэвальвацыя даверу да старых партыйных брэндаў. Так ці інакш, у кастрычніку 2016-га Саюз сялян і зялёных дарваўся да ўлады і запусціў свой антыалкагольны праект, ідэолагам якога стаў бізнесовец і палітык Рамунас Карбаускіс.

Тое, што Карбаускіс не сябруе з алкаголем, магчыма, выклікана сямейнай спадчынай. Яго бацька Чаславас Карбаускіс быў старшынёй аднаго з літоўскіх калгасаў, які ў СССР лічыўся амаль ідэальным. Ніводны са 150-ці супрацоўнікаў калгасу не браў у рот гарэлкі. Не дзіўна, што гаспадарка квітнела, а сам старшыня быў нават дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. Негатыўнае стаўленне да алкаголю, напэўна, атрымаў у спадчыну і сын.

Асноўныя кірункі наступу новага ўраду на алкаголь мусілі быць наступнымі: абмежаванне доступу да алкаголю, забарона яго рэкламы плюс павышэнне ўзроставай мяжы для тых, хто хоча набыць яго. Хутка пачаліся рэформы. Ужо ў 2016 годзе алкагольныя прадукты зніклі з АЗС. У кафэ і рэстаранах алкаголь можна набываць цэлы дзень, аднак вам абавязкова пераліюць яго з бутэлькі ў куфаль. Алкаголю абвешчаная і акцызная вайна:

**Галоўная ідэя ўраду — імпарт шведскай мадэлі, дзе продаж алкаголю з'яўляецца дзяржманаполіяй, — не рэалізаваная. Уладальнікі супермаркетаў і вытворцы алкаголю праз парламенцкае лобі блакуюць тыя ініцыятывы. Частка інтэлектуалаў заклікае не забараняць, а рэкламаваць здаровы лад жыцця**

пачынаючы з 2017-га акцызы на піва і віно выраслі на 112 працэнтаў, на моцны алкаголь — на 23 працэнты.

Праўда, галоўная ідэя ўраду — імпарт шведскай мадэлі, дзе продаж алкаголю з'яўляецца дзяржаўнай манаполіяй, — падаецца, пакуль не рэалізаваная. Уладальнікі супермаркетаў і вытворцы алкаголю праз сваё парламенцкае лобі блакуюць ініцыятывы ў гэтай галіне. Іх падтрымлівае частка інтэлектуалаў, якія заклікаюць не забараняць, а рэкламаваць здаровы лад жыцця.

Пры гэтым праціўнікі любяць называць антыалкагольныя мерапрыемствы ўраду рэліктам СССР, дзе ўсе сферы былі падпарадкаваныя дзяржаве. Часам іх называюць нават першым крокам на шляху да таталітарнай сістэмы, калі ўся Літва будзе нагадваць калгас бацькі Рамунаса Карбаускіса. Праўда, на латэнтнага камуніста той не падобны. Ён — аматар літоўскай паганскай спадчыны, з'яўляецца куратарам вялікага тэматычнага фолк-фестывалю з выразнымі паганскімі матывамі. Таксама называе сябе не літоўцам, а жмудзінам. На яго баку — частка мясцовай інтэлігенцыі, якая нагадвае, што першыя кампаніі супраць злоўжывання алкаголю літоўцамі былі арганізаваныя Касцёлам яшчэ ў 1860-я гады.

Тым не менш, нейкія вынікі паходу супраць алкаголю ўжо можна падвесці. Дзякуючы новым акцызам у бюджэт прыйшлі дадатковых 80 мільёнаў еўра. За перыяд з 2016 па 2018 год аб'ём спажывання алкаголю сярэднім літоўцам скараціўся на два літры.

Аднак тут таксама шмат пытанняў. Літоўская статыстыка спажывання алкаголю тычыцца толькі мясцовых крамаў. Між тым, у краіне за апошнія часы паўстала мода набываць моцныя напоі ў суседзяў. Найбольшы профіт на антыалкагольных забабонах Вільнюса робіць Рыга: на мяжы з Літвой пабудаваны цэлы гандлёвы комплекс, які абслугоўвае літоўскіх п'янтосаў. Прычым літоўскае піва каштуе там напалову танней, чым у самой Літве.

Такім чынам, казаць пра тое, што Літва стала больш цвярозай, няма падстаў. А магчыма, літоўцы ў параўнанні з 2016-м ужываюць яшчэ больш. У выніку закупаў у Літве алкаголь у вялікіх колькасцях складуецца ў дамах літоўцаў, і людзі, як вынік, п'юць больш.

# Хто страціў Кітай?

Алег НОВІКАЎ

**Кітайская Народная Рэспубліка (КНР) адзначае сваю 70-ю гадавіну. А ў ЗША 70 гадоў упарта шукаюць адказ на пытанне: як амерыканцы і іх кітайскія саюзнікі ў 1949 годзе прымудрыліся аддаць краіну камуністам?**


Фота www.asia.nikkei.com

Здавалася, нічога на момант заканчэння Другой сусветнай вайны не сведчыла пра тое, што Кітай хутка стане чырвоным. ЗША — асноўны рэгіянальны гулец, бачылі ў ролі кітайскага лідара выключна Чан Кайшы — генералісімуса і правадыра партыі Гаміньдан. Лічылася, што нацыяналісты (так называлі вайсковыя фармаванні Чан Кайшы) без асаблівых праблемаў запоўняць вакуум улады, які паўстане пасля сыходу з Паднябеснай японцаў. Фактар камуністычных атрадаў Маа ў дакументацыі Дзярждэпу амаль адсутнічаў.

Праўда, быў шэраг дыпламатаў, якія звярталі ўвагу на фенаменальную карумпаванасць апарату Гаміньдана, якая давала камуністам цудоўную глебу для агітацыі. Некаторыя з іх нават заклікалі тэрмінова наладзіць кантакты са штабам Маа, каб паспрабаваць пераарыентаваць яго з Масквы на Вашынгтон. Праўда, Рузвельт намагаўся не чуць падобных прапаноў.

Катастрафічнасць сітуацыі ў Злучаных Штатах зразумелі толькі напачатку 1949-а, калі Рузвельт ужо чатыры гады як памёр, а Народна-вызваленчая армія Кітая па чарзе знішчала асноўныя групоўкі Гаміньдана на кантыненце. Толькі ўвосень 1948 года за кароткі час былі разбітыя 52 дывізіі Чан Кайшы, а яшчэ 26 дывізій, навучаных ваеннымі інструктарамі ЗША, перайшлі на бок Маа.

Шок, паніка, разгубленасць, паранойя... Напэўна, такімі словамі можна апісаць рэакцыю амерыканскай эліты на навіны з Кітая. Адзін з сучаснікаў наступным чынам апісваў пачуцці ў тыя дні: «Мы заўжды думалі, што Кітай — надзейны, дэмакратычны, сяброўскі і, перш за ўсё, праамерыканскі. І раптам стратэгія стрымання чырвонай агрэсіі ляснулася. Усе дасягненні амерыканскай дыпламатыі — дактрына Трумана, план Маршала і стварэнне NATO — на нейкі момант падавалася таксама вось-вось ляснуцца на фоне катастрофы ў Азіі».

Спрабуючы зразумець прычыны паразы ў жніўні 1949 года, Дзярждэп падрыхтаваў дакумент «Кітайскія белыя паперы». Яго аўтары, апытаўшы каля дзвюх тысяч чалавек, якія былі ў тэме, заключылі: ЗША сапраўды не пралічылі ступень камуністычнай пагрозы. Заставалася адказаць на вечнае пытанне: хто вінаваты ў Loss of China (страце Кітая)?

Апазіцыя ў выглядзе Дэмпартыі адразу пераклала ўсю адказнасць на адміністрацыю рэспубліканцаў, і нават паспрабавала зрабіць Loss of China ледзь не топ-тэмай будучай прэзідэнцкай кампаніі 1952-га. Тэма страты Кітая натхняла на літаратурную творчасць. Адзін з генералаў прапанаваў на старонках свайго фаліянта версію пра тое, што Loss of China арганізавала група савецкіх шпіёнаў пад кіраўніцтвам Рычарда Зорге, які на самай справе, як вядома, быў забіты японцамі яшчэ ў 1944 годзе.

**«Кітай ніколі не быў у поўнай палітычнай залежнасці ад ЗША, і ён не мог быць аддадзены Маскве адным цыркулярам. Штаты ніколі і нідзе не мелі магчымасці паўплываць на лёс Кітая»**

Аднак значна большы піяр на кітайскай тэматыцы зрабіў сенатар Джозэф Маккарці, які 7 лютага 1950-га выдаў спіч, што зрабіў яго фігурай нацыянальнага маштабу. Па словах сенатара, у яго ёсць спіс 205 супрацоўнікаў Дзярждэпу, якія з’яўляюцца агентамі кітайскіх камуністаў. Прычым гэта не замінае ім адказваць за знешнюю палітыку ЗША, у тым ліку і за кітайскі напрамак. Праўда, пасля ён назваў толькі двух фігурантаў гэтага спісу — вучонага і дыпламата, якім уся гэтая гісторыя каштавала кар’еры і здароўя.

Па ходзе таго, як грамадская крытыка на адрас Маккарці ўзмацнялася, тэорыя шпіёнаў згубіла папулярнасць. Як пісала тады «Washington Post», «Кітай ніколі не быў у поўнай палітычнай залежнасці ад Злучаных Штатаў, і ён не мог быць аддадзены Маскве адным цыркулярам. Кітай быў і застаецца велізарнай кантынентальнай краінай, з насельніцтвам у паўмільярда чалавек, большасць з якіх жывуць на ўзроўні пражытковага мінімуму, яны адвечна эксплуатуюцца памешчыкамі і вайсковымі, з’яўляюцца ахвярамі гвалту рэвалюцыянераў і контррэвалюцыянераў. Злучаныя Штаты ніколі і нідзе не мелі магчымасці паўплываць на лёс Кітая. Кітай быў страчаны кітайцамі».

Аднак і дасюль тэма Loss of China выклікае інтарэс. Напрыклад, адзін з публіцыстаў пабачыў у гэтым псіхічны комплекс чыноўнікаў Дзярждэпа, якія не маглі зразумець, як Кітай можа больш не належаць Злучаным Штатам, калі, паводле канцэпцыі амерыканскай гегемоніі, ён павінен ім належаць. Іншы гісторык перакладае ўсю адказнасць на амерыканскіх вайскоўцаў і дыпламатаў, якія працавалі падчас вайны з Чан Кайшы і глядзелі на кітайскую рэальнасць выключна са словаў прадстаўнікоў яго атачэння. Яшчэ адзін эксперт лічыць, што янкі памыліліся, калі прымусілі нацыяналістаў атакаваць японцаў у 1945 годзе. Пакуль Чан змагаўся, Маа пры дапамозе Сталіна падрыхтаваўся да вайны з Гаміньданам. Урэшце, пішуць, што рэжым Чан Кайшы быў асуджаны праз кааперацыю з англасаксамі, у якіх кітайцы бачылі ненавісных белых каланізатараў.

Працягваюцца тыя дэбаты і цяпер. Хаця ў гэтым годзе ў іх межах было сфармаванае новае пытанне: ці не скончацца цяперашнія амерыкана-кітайскія гандлёвыя войны новай стратай Кітая для Злучаных Штатаў, і якія могуць быць наступствы Loss of China–2?

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Эла Памфілава



Старшыня расійскага ЦВК заявіла, што прадставіць на абмеркаванне пакет паправак у выбарчы закон.

Відавочна, што гэтыя карэкціроўкі могуць моцна паўплываць на ход вельмі важных для краіны парламенцкіх выбараў у 2021-м і прэзідэнцкіх — у 2024-м (згодна з Канстытуцыяй, Пуцін не будзе мець права на іх балатавацца). Зрэшты, менавіта Пуцін і даў згоду на змяненне закона пасля сустрэчы з лідарам камуністаў Генадзем Зюганавым. У межах сустрэчы Зюганаў пазначыў такія тэмы для рэформы: перанос даты адзінага дня галасавання, узмацненне жорсткасці адказнасці за фальсіфікацыі, мадэрнізацыя механізмаў рэгістрацыі кандыдатаў, ліквідацыя шматлікіх партый-спойлераў, ад якіх пакутуе менавіта Кампартыя.

Аднак Памфілава гатовая дапусціць толькі частковую мадэрнізацыю працэдуры збору кандыдатамі подпісаў, з-за якіх разгарэўся скандал на апошніх выбарах у Масгардуму. Непартыйны кандыдат павінен заручыцца падтрымкай 5 працэнтаў выбаршчыкаў на акрузе, што тэхнічна вельмі цяжка. Цяпер кандыдатам, магчыма, дазволяць часткова збіраць подпісы праз інтэрнэт. Праўда, за гэта будзе адказваць нейкі дзяржаўны партал.

Таксама кіраўніца ЦВК выступае за ўмацаванне вертыкалі выбаркамаў, якія не дазволяць мясцовым уладам уплываць на выбарчы працэс. Якія папраўкі ў выбарчы закон будуць прынятыя Крамлём, да канца не зразумела. Але пакуль ініцыятывы Памфілавай выглядаюць так, што роля адмінрэсурсу толькі ўзмоцніцца.

### Леа Варадкар



Брытанская прэса прааналізавала пазіцыю Ірландыі ў цяперашнім крызісе вакол Brexit і зрабіла сенсацыйную выснову: дзякуючы ірландскаму прэм’еру ўпершыню ў гісторыі Ірландыя выглядае больш моцнай дзяржавай, чым Вялікабрытанія.

І, падаецца, гэта не журналісцкая спекуляцыя. Дублін, абапіраючыся на падтрымку Еўрасаюза, ужо дамогся ад Лондана абяцання не зачыняць брытанска-ірландскай мяжы ў выпадку выхаду Аб’яднанага Каралеўства са складу ЕС. Цяжка ўзгадаць, калі ў гісторыі здаралася нешта падобнае.

Хаця Ірландыя і дабілася незалежнасці ў 1922 годзе, пра годную канкурэнцыю з былой метраполіяй ніхто ў Дубліне нават не марыў. Гісторыкі нават раскапалі, што апошні раз англічане мусілі лічыцца з ірландцамі аж у далёкім 1171 годзе. Пры гэтым некаторыя палітолагі дапускаюць, што гэта толькі пачатак росту дамінавання ўчорашняга «малодшага брата». Хутчэй за ўсё, Паўночная Ірландыя застанецца ў агульным еўрапейскім рынку, што дазволіць ірландцам уплываць на мясцовую палітычную сцэну.

Ірландыя таксама можа прадстаўляць Еўрасаюз у нарастаючай канфрантацыі паміж Лонданам і Эдынбургам. Цікава, што брытанская грамадскасць успрымае факт узмацнення ірландскага панавання без усялякіх імперскіх комплексаў. Хіба толькі ў Лондане шкадуюць, што цяпер няма такіх вялікіх ірландскіх акцёраў, як Пітэр О’Тул або Рычард Харыс. На іх думку, толькі яны маглі раскрыць у драмах або ў фільмах вялікі гістарычны парадокс, які здарыўся з ірландцамі падчас Brexit.

### Іньіга Эрэхон



Іспанскі палітолаг, палітык, экс-дэпутат ад левараДыкальнай партыі Podemos яшчэ больш заблытаў сітуацыю наконт вынікаў датэрміновых лістападаўскіх парламенцкіх выбараў — 30 верасня ён прэзентаваў праект Mas Pais («Больш краіны»).

Лічыцца, што праект Mas Pais здольны паўплываць на вынікі галасавання, бо арыентуецца на таго ж левага выбаршчыка, што і кіруючыя сёння краінай сацыялісты. Акрамя таго, у рух увайшлі эколагі, шэраг нацыяналістычных рэгіянальных арганізацый, а таксама тыя, хто расчараваўся ў цяперашнім кіраўніцтве Podemos (да іх належыць і сам 36-гадовы Эрэхон).

Шматлікім экспертам кідаецца ў вочы больш выразны папулісцкі стыль новай структуры. Акрамя таго, новая партыя — нечаканая для многіх — адмаўляе правы Каталоніі на суверэнітэт, што падабаецца шматлікім іспанцам.

Прэса нядрэнна ацэньвае шанцы Эрэхона на выбарах 10 лістапада. На думку СМІ, у яго ёсць магчымасць атрымаць добры працэнт галасоў з-за высокага ўзроўню незадаволенасці выбаршчыкамі старымі левымі партыямі, якія не змаглі дамовіцца наконт фарміравання ўраду. З іншага боку, поспех Mas Pais яшчэ больш узмоцніць мазаічнасць іспанскага палітычнага пейзажу і анархію ў парламенце, што прывядзе або да чарговых выбараў, або да сур’ёзных канстытуцыйных рэформаў.


Фота Зарыны Шаўко


**Пан Алесь, пан Андрэй і Пан Юры.** Фота minsknews.by


Фота Юрыя Усціновіча

**Юры — той самы рыцар з білборда «Хто пакрыўдзіў кацяня?»**

# Сувязь з продкамі, «хвароба патрыятызму» і ўнутраная свабода

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Рыцары існуюць. Як і раней, сёння яны б'юцца на мячах, шаблях і дзідах. А яшчэ шануюць гісторыю ды распавядаюць пра яе дзецям і дарослым. Адзін з такіх сучасных рыцараў — Юры Усціновіч.**

«Я прафесійны разгільдзяй вышэйшага гатунку. Такім трэба ўрадзіцца і шліфаваць гэты талент цягам жыцця», — аджартоўваецца Юры на пытанне, кім найперш ён сам сябе лічыць. Бо выбраць ёсць з чаго: мае гістарычную адукацыю, выкладае ва ўніверсітэце, займаецца гістарычнай стылізацыяй эпохі Сярэднявечча і Новага часу, піша вершы і казкі, выступае маршалкам на традыцыйных беларускіх вяселлях ды вядоўцам на рыцарскіх турнірах, працуе намеснікам дырэктара па развіцці ў этнакраме «Рагна».


Фота Рыгора Ліўшыца

## «Тры каласкі», «склеенае» сала і адваяваны хутар

Юры нарадзіўся ў гарадку Дзісна, што на Віцебшчыне, у дзяцінстве багата часу бавіў у бабулі на хутары і памятае ад яе шмат гісторый.

— Саветы так іх абклалі падаткамі на хутары, што пасля ўсіх выплатаў есці не было чаго. Пасля таго, як убіралі калгаснае поле, яны ўначы хадзілі і шукалі там каласкі. Мяжа была бачная з хутара. Па дзіцячых уражаннях бабулі, польскія памежнікі былі прыгожыя, з бліскучымі гузікамі, выкшталцоныя. А пасля прыйшлі Саветы — усе нейкія абадраныя, закарэлыя. Хоць за польскім часам жылі небагата, але была свая зямля, у крамах было ўсё. Але праз два тыдні пасля «ўз'яднання» ўсё знікла. Была яшчэ вясёлая гісторыя: прыйшоў чырвонаармеец і кажа: «Навошта вы сала склейваеце?» Аказваецца, у БССР такога тоўстага сала не бачылі.

Падчас вайны, распавядала бабуля Юрыя, немцы частавалі дзяцей шакаладам, а вось горш за партызанаў не было нічога.

— А ў савецкія часы дзеда не маглі выжыць з хутара. І святло яму не праводзілі, і што толькі ні рабілі. Як пачалася вайна, дзеда не паспелі мабілізаваць і, паколькі ён быў на акупаванай тэрыторыі, саслалі ў Сібір, дзе ён прабыў да 1949 года. Выжыў там толькі дзякуючы таму, што быў цесляром. Усе хварэлі на цынгу, а ён працаваў з дошкамі і жаваў смалу з дрэваў. Па вяртанні калгас і саўгас заворвалі поле пад самыя сцены хаты, а дзед уначы выкопваў нейкія дрэўцы і кусцікі і засаджваў імі поле, і трактары не маглі за іх праехаць. Пасля смерці Сталіна яго пакінулі ў спакоі.

## Аднавіў зрок і працягнуў справу брата

— У дзяцінстве я ледзь не страціў зрок. Калі мне было два гады, выявілася, што я не бачу далей за выцягнутую руку. Да таго ж у мяне была касавурасць. Трэба было рабіць аперацыю, але доктарка сказала: «Давайце паспрабуем яго выцягнуць». І мне сказалі, якія практыкаванні рабіць, мама са мной займалася, раз на месяц вазіла правяраць зрок. Я пасля хадзіў у акулярах і, як усе ў той час, марыў стаць касманаўтам. Але з мяне смяяліся: якім касманаўтам, ты нават машынай кіраваць не зможаш. Аднак дзякуючы практыкаванням мой зрок палепшыўся: да школы я ўжо мог чытаць, а ў дзявятым класе зняў акуляры. Касманаўтам, канешне, не стаў, але машынай кірую.

Гэтая гісторыя навучыла Юрыя ўпартасці. Але, зазначае ён, калі ў абяцаннях іншым людзям ён зробіць усё, каб не падвесці, то змагацца з самім сабой і сваімі слабасцямі — цяжэй за ўсё.

Пэўна, рыцарства — гэта ўнутраны стан, які абавязвае прытрымлівацца свайго ўмоўнага «кодэкса годнасці». Гэтая рыса праявілася яшчэ тады, калі Юры абіраў прафесію, праўда, сваю ролю адыграў трагічны выпадак. У хлопца быў старэйшы брат, які ў многім быў для яго прыкладам, захапіў яго чытаннем і любоўю да гісторыі. Паступіўшы праз шалёны конкурс на гістфак і адвучыўшыся на першым курсе, ён паехаў у будатрад і там загінуў. Для Юрыя скончыць гістфак за брата стала справай гонару.

## «Хвароба патрыятызму»

— Калі я бяру ў рукі халодную зброю, у мяне адразу ёсць нейкае ўнутранае адчуванне, як з ёй працаваць, і менавіта праз гэта я адчуваю сувязь з продкамі. Напрыклад, з агнястрэльнай зброяй такога няма, — кажа Юры.

Бадай, дзякуючы гэтаму ён на сёння — адзін з вядомых арганізатараў і ўдзельнікаў сярэднявечных рыцарскіх баёвак. А яшчэ некалькі разоў на месяц з аднадумцамі знаходзіць час, каб узяць даспехі, зброю і паехаць у якую-небудзь школку распавядаць дзецям пра тое, якая багатая і цікавая ў нас гісторыя, і паказаць, як маглі біцца ваяры на нашых землях у часы Вялікага Княства Літоўскага.

— Для мяне гэта — спосаб даць выйсце «хваробе патрыятызму» і вельмі відовішчна паказваць, якая ў нас культура і чаму варта яе шанаваць. Бо людзі мала ведаюць і мала цікавяцца сваёй гісторыяй, большасці ўсё роўна, — тлумачыць Юры. — І, хто ведае, можа, дзякуючы нам да кагосьці тая бацыла і прычапілася.

З найбліжэйшых праектаў Юрыя — трэніроўкі па шабельным фехтаванні на базе спартовага клуба «Волат». На занятки яшчэ можна запісацца: узрост — ад 14 гадоў і вышэй без абмежаванняў (калі, канешне, дазваляе фізічная форма), палавая прыналежнасць не мае значэння.

Жаданне завязаць са стылізацыяй узнікала некалькі разоў. Аднак магчымасць даводзіць да людзей каштоўнасць нашай гісторыі і культуры, папулярызаваць іх, урэшце перамагала. І цяпер Юры кажа, што, хаця абставіны ў краіне засталіся ранейшыя, адбыліся змены ўнутры грамадства. Калі яшчэ 10 гадоў таму можна было сустрэць варожае стаўленне да беларускай мовы, то цяпер прыходзіць разуменне, што мова — гэта важна. Больш за тое: павялічылася колькасць людзей, якія свядома размаўляюць па-беларуску і не ведаюць адзін аднаго!

— Раней нас у школах баяліся прымаць — як бы чаго не выйшла. А потым я пазнаёміўся з праваслаўным бацюшкам з Вілейскага раёна, айцом Ігарам. Хаця ў мяне было такое стаўленне да праваслаўных, што гэта праваднікі рускага патрыятызму ў адмоўным сэнсе. Але я зразумеў, што царкоўная іерархія проста не дазваляе праваслаўным беларускаму патрыятызму, хаця ён ёсць, і вельмі моцны. І гэты бацюшка сказаў у сваім прыходзе, што мы прыедзем. Потым ён перадаваў нас «з рук у рукі» іншым святарам. Дзякуючы гэтаму ў нас адбылося з дзясятак паездак па Беларусі.

## Свабода ў рэзервацыі

— Ёсць стэрэатып, што беларуская культура — сялянская. Але мы паказваем, што былі розныя саслоўі, і ўсе яны мелі сваю культуру. І паступова да людзей прыходзіць усведамленне, што без ведання сваёй гісторыі і культуры нічога не атрымаецца. Як бы пафасна гэта ні гучала, але гісторыя для народа — як карані для дрэва. Калі яна ёсць, значыць, народ будзе развівацца. Дрэва без каранёў засохне, а этнас без ведання сваёй гісторыі загіне, — разважае Юры.

Нават у 1990-я гады, ужо стаўшы студэнтамі гістфаку, патрабуючы выкладання па-беларуску і па-беларуску ж адказваючы, паміж сабой Юры з сябрамі размаўлялі па-руску. Але калі ён трапіў па размеркаванні выкладаць у Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, для яго сталася шокам, што старэйшыя калегі-выкладчыкі і ў жыцці гавораць па-беларуску. Другім крокам да беларускай мовы стала паездка на працу ў Нямеччыну: каб адрозніваца ад рускіх, якія паводзілі сябе там не лепшым чынам, Юрась з паплечнікамі вырашыў размаўляць беларускую.

— Але па вяртанні было складана размаўляць на вуліцы, у краме, у аптэцы. Напэўна, сучаснай моладзі лягчэй, а нам былі ўбітыя ў галовы комплексы. Але пачаў спрабаваць — і цяпер у мяне з гэтым праблем няма. А яшчэ мне пашчасціла сустрэць сваю палову, якая таксама размаўляе беларускай. І цяпер у сям'і ў нас усё на беларускай мове, і дзеткі растуць, і з намі таксама гавораць па-беларуску.

Хаця на вуліцы з рускамоўнымі людзьмі дзеці Юрася могуць без праблем гаварыць і па-руску. На пытанні, чаму астатняя большасць размаўляе па-іншаму, дзецям тлумачаць: мы такім чынам шануем культуру і памяць нашых продкаў.

Юры прызнае, што беларускамоўныя беларусы знаходзяцца нібыта ў рэзервацыі. Тым не менш, ён кажа, што пачуваецца значна больш свабодным, чым вялікая колькасць суайчыннікаў.

— Поўнасцю свабодным у цяперашняй палітычнай сітуацыі я адчуваць сябе не магу. Але, як бы пафасна гэта ні гучала, у мяне ёсць нейкая ўнутраная свабода.

# Лёс намесніка міністра замежных спраў БНР



Сяргей ЧЫГРЫН

**Ён быў беларускім консулам, намеснікам міністра замежных спраў БНР, ад'ютантам генерала Урангеля, заснаваў Беларускую народную Самапомач, яго падазравалі ў забойстве Кубэ, быў актывістам у жыцці беларускай дыяспары ў ЗША, яго не любіла Ларыса Геніюш... Гэта не хто іншы, як беларус Іван Ермачэнка.**

## Маленства і юнацтва

Нарадзіўся Іван Ермачэнка ў беларускай сялянскай сям'і ў траўні 1894 года ў вёсцы Капачоўка Барысаўскага павета. Спачатку вучыўся ў пачатковай школе ў сваёй роднай вёсцы, а потым у Маскве скончыў гімназію і паступіў на электратэхнічны факультэт адной з вышэйшых навучальных устаноў. Але скончыць не паспеў, бо пачалася Першая сусветная вайна. У гэты час уся сям'я Ермачэнкаў жыла ў Маскве, бо бацька пэўны час працаваў на чыгунцы каля Масквы.



Іван Ермачэнка

Ермачэнка пайшоў у армію добраахвотнікам, а перад гэтым паспеў скончыць школу прапаршчыкаў. Яго накіравалі на фронт, дзе беларус даслужыўся да паручніка, і нават меў некалькі ўзнагародаў. На фронце ў 1918 годзе ён трапіў у палон, але яму ўдалося ўцячы.

## У арміі генерала Урангеля

У Расіі ішла грамадзянская вайна. З палону Іван Ермачэнка трапіў у Белую армію рускага генерала Пятра Урангеля, які камандаваў паўднёвым фронтам. Там Ермачэнка даслужыўся да палкоўніка. Хутка генерал узяў яго да сябе і прызначыў сваім ад'ютантам. Пасля паразы разам з генералам Урангелем беларус эвакуяваўся ў Турцыю, у Канстанцінопаль.

У Канстанцінопалі Ермачэнка наладжваў сувязі з беларусамі, і ў 1921 годзе стварыў Беларускі Камітэт.

## На карысць БНР

Беларускі Камітэт у Канстанцінопалі ў 1921 годзе актыўна наладжваў сувязі з кіраўніцтвам Беларускай Народнай Рэспублікі, якое ў той час знаходзілася ў Коўне. Туды і паехаў Ермачэнка: сустрэўся з Вацлавам Ластоўскім — старшынёй ураду БНР. За подпісам Ластоўскага ён атрымаў дазвол на дыпламатычнага прадстаўніка БНР у Канстанцінопалі і генеральнага консула на Балканах. З дыпламатычным пашпартам Ермачэнка вярнуўся ў Канстанцінопаль. Дзякуючы яму хутка былі атрыманы прызнанні БНР дэ-факта ад французскага, італьянскага і грэчаскага ўрадаў. Беларускі дыпламат наведаў усе дыпламатычныя і консульскія прадстаўніцтвы ў Турцыі, дзе яго запэўнілі, што беларускія пашпарты БНР будуць сапраўдныя, як і пашпарты іншых дзяржаў свету.

У Турцыі Іван Ермачэнка дапамагаў беларусам-вайскоўцам выехаць у Літву, Амерыку і ў іншыя краіны. Ён таксама заснаваў консульскія аддзелы БНР у Балгарыі і Югаславіі.

У другой палове 1922 года Іван Цвікевіч выклікаў Ермачэнку ў Коўна і прызначыў яго намеснікам міністра замежных спраў БНР. Але ў канцы гэтага года літоўскі ўрад выгнаў беларускае кіраўніцтва. Праўда, літоўцы прапанавалі Івану Ермачэнку застацца ў Літве і стаць камандзірам аднаго з палкоў літоўскай арміі. Але ён адмовіўся — і разам з урадам БНР пераехаў у Прагу.

## У Празе

У Празе Іван Ермачэнка паступіў у Карлаў універсітэт на медыцынскі факультэт. Падчас вучобы ён стаў актыўным сябрам Беларускага студэнцкага саюза, кіраўніком беларускай секцыі арганізацыі моладзі «Сокал», якая існавала пры агульным чэшскім «Сокале», супрацоўнічаў з сябрамі БНР.

У 1929 годзе Іван Ермачэнка скончыў навучанне і адкрыў свой прыватны лекарскі кабінет у Празе. Ён займаўся не толькі медыцынай, але і актыўна цікавіўся палітыкай. У Празе ён ведаў амаль усіх беларусаў, да якіх ставіўся па-рознаму.

Вось як пра яго згадвае паэтка Ларыса Геніюш у сваёй «Споведзі»: «Беларусы, за малымі выняткамі, жылі вельмі бедна. Загадкава багата жыў толькі адзін Іван Абрамавіч Ермачэнка. Быў гэта лекар, які меў багатыя апартаменты ў цэнтры Прагі і інзэраты (аб'явы) аб сваім кабінеце даслоўна ва ўсіх чэшскіх газетах. Гэта быў вельмі добра апрануты сярэдняга росту нехуды чалавек, які вечна ўсміхаўся, але зусім не выклікаў да сябе даверу. Жанаты ён быў з нейкай рускай з Румыніі, якая таксама скончыла медыцыну (зубніха) на беларускую стыпендыю, мелі яны дзве дачкі. Акрамя яго ніхто ні слова не гаварыў па-беларуску. Багаты гэты чалавек не меў ніякае літасці над беднымі сваімі суайчыннікамі, ён наагул, як казалі, сэпараваўся ад іх, але вось цяпер пачаў браць удзел у беларускім жыцці, цікавіцца падзеямі й высоўвацца наперад. Я яго нечаму неўзлюбіла, і ён ніколі не здабыў маёй сымпатыі й маяго даверу. Яго ўсе баяліся, але я не баялася нікога, а супраць яго пачала выступаць...».



Консул у Турцыі Іван Ермачэнка (справа) са сваім сакратаром. Канстанцінопаль, 1921–1922 гады



Галоўная Рада Беларускай Самапомачы ў Мінску, 1942 г. Сядзіць трэці справа Іван Ермачэнка



**Беларускі консулят у Турэччыне.**

У Константынопалі адчынены беларускі консулят. Консулем—палкоўнік Ермачэнка.

Адрэс: Consulat de la Republique demokratique Bielarus (Ruthenie Blanche), Constantinople, Rue Minarete № 5.

**Беларускі Нацыянальны Камітэт у Баўгарыі.**

У Софіі адчынены Беларускі Нацыян. Камітэт. Адрэс: Comite national Bielarusien, Hotel „Novo Rodepi“ № 34, place de St. Nikolas Sofia. Старшынёю Камітэту—гэн.-майор Галубянцоў.

Газета «Наша думка» з аб'явай. 1921 год, № 23

Вядома ж, гэта суб'ектыўная думка Ларысы Геніюш. Тым не менш, у Празе Іван Ермачэнка стварыў уласнае прыватнае выдавецтва, якое выпускала кнігі. Ён фінасаваў выданне часопіса «Іскры Скарыны», першы нумар якога пабачыў свет 3 ліпеня 1931 года. У ім друкавалі свае артыкулы, разважанні і вершы Тамаш Грыб, Васіль Захарка, Уладзімір Жылка і іншыя беларускія дзеячы.

## Беларуская народная Самапомач

У 1940–1941 гадах, як пісаў гісторык Юры Туронак, Іван Ермачэнка займаўся арганізацыяй беларускіх лекараў у Германіі. Ён актыўна супрацоўнічаў і сябраваў з доктарам Вагнерам, які ў сярэдзіне 1941 года заняў у міністэрстве акупаваных усходніх зямель пасаду загадчыка аддзела, а таксама сачыў за дзейнасцю аддзялення Самапомачы на акупаваных абшарах СССР. Дарэчы, Беларуская народная Самапомач была заснавана Ермачэнкам у Мінску ў 1941 годзе. Адначасова Іван Ермачэнка кантактаваў з прафесарам Мэндэ, з якім часта вёў гутаркі наконт гісторыі і становішча на Беларусі. Прафесар Мэндэ хутка заняў высокую пасаду ў міністэрстве Розенберга. Гэтае сяброўства і сувязі садзейнічалі Івану Ермачэнку ў яго будучай кар'еры падчас акупацыі.

Восенню 1941 года Іван Ермачэнка прыехаў у Мінск. Ён сур'ёзна пачаў займаецца Самапомаччу, якая задумвалася акупацыйнымі ўладамі як дабрачынная арганізацыя для апекі над збяднелым насельніцтвам. Але, дзякуючы Івану Ермачэнку, удалося стварыць агульнабеларускую арганізацыю, якая займалася не толькі сацыяльнымі пытаннямі, але і пытаннямі школьніцтва, культуры і грамадскага жыцця. Генеральны камісар Беларусі Вільгельм Кубэ падтрымліваў беларускія справы Івана Ермачэнкі. Шырокая нацыянальная дзейнасць Самапомачы ўзняла нацыянальную самасвядомасць і арганізаванасць беларусаў падчас акупацыі. Але гэты беларускі нацыянальны ўздым выклікаў незадавальненне ў акупацыйнай палітычнай паліцыі (СД). Пачалася прыхаваная барацьба, ахвярай якой стаў Ермачэнка. Напачатку 1943 года гітлераўскія спецслужбы пачалі сачыць за кіраўніком Самапомачы, бо ўбачылі ў ім вялікую небяспеку. У красавіку 1943 года яго выслалі ў Прагу пад нагляд гестапа.

## Падазрэнне ў забойстве Кубэ

Выбухам міны ў Мінску 22 верасня 1943 года быў забіты генеральны камісар Беларусі Вільгельм Кубэ. У сувязі з гэтым у Празе быў арыштаваны Іван Ермачэнка, які падазраваўся ў арганізацыі забойства. Спачатку яго пасадзілі ў турму, а потым на цягніку адправілі ў канцлагер.

Ратаваць беларуса пачалі той самы прафесар Мэндэ і жонка Вера Шафер. Цудам выратавалі. А вясной 1945 года Іван Ермачэнка разам з сям'ёй з Чэхіі з'ехаў у Заходнюю Германію, а праз тры гады эміграваў у ЗША.

## На эміграцыі

У ЗША Іван Ермачэнка разам з некалькімі беларусамі заснаваў Задзіночаны (Злучаны) беларуска-амерыканскі дапаможны камітэт у Саўт-Рыверы. Тады пачаў выдавацца і часопіс «Беларус у Амерыцы», дзе друкаваўся і сам спадар Ермачэнка.

Да канца свайго жыцця (памёр 25 лютага 1970 года) Іван Ермачэнка быў сябрам рэдакцыйнай камісіі Беларускага Кангрэсавага камітэта Амерыкі, якая рыхтавала да друку гісторыю Беларусі на англійскай мове.

## Архіў

У Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі ў Маскве (фонд 5875) знаходзіцца шмат дакументаў, звязаных з жыццём і дзейнасцю былога намесніка міністра замежных спраў БНР. Гэтыя дакументы паступілі туды пасля Другой сусветнай вайны. Ёсць там справаздачы Ермачэнкі, паслужныя спісы і пасведчанні за 1916–1920-я гады, студэнцкія дакументы і перапіска з чэшскімі медыкамі, з беларускімі эмігрантамі, са сваякамі, дакументы пра знаходжанне яго ў Белай арміі і іншыя. Дакументы падчас дзейнасці Ермачэнкі на пасадзе генеральнага консула БНР у Канстанцінопалі знаходзяцца і ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (фонд 827).



# БагатаДата

**Што такое «Канстытуцыя развітога сацыялізму» і хто быў аўтарам плакатаў «Кадры вырашаюць усё»? Пра гэта і не толькі — у нашым аглядзе.**

### 5 кастрычніка

**Сусветны дзень настаўніка.** А таксама Міжнародны дзень дзіцячага цэрабральнага паралічу і Міжнародны дзень супраць прастытуцыі.

**1974.** У Іерусаліме памёр ізраільскі пісьменнік і палітык Залман Шазар (сапраўднае прозвішча — Рубашоў). Ураджэнец беларускага мястэчка Мір, ён быў трэцім прэзідэнтам Дзяржавы Ізраіль (дзве кадэнцыі).

### 6 кастрычніка

**1994.** Прыняты Закон «Аб Нацыянальным архіўным фондзе і архівах у Рэспубліцы Беларусь». Гэтая дата стала адзначацца ў нашай краіне як Дзень архівіста.

### 7 кастрычніка

**Сусветны дзень архітэктуры** і **Міжнародны дзень лекара.**

**1977.** Была прынята трэцяя і апошняя Канстытуцыя СССР — «Канстытуцыя развітога сацыялізму», або «Брэжнеўская Канстытуцыя». Камуністычная партыя абвяшчалася «авангардам народа» і «кіруючай сілай савецкага грамадства» — палітычная сістэма была аднапартыйнай. «Развітое сацыялістычнае грамадства» апісвалася як «грамадства сапраўднай дэмакратыі» і як «заканамерны этап на шляху да камунізму». Фармальна рэспублікі мелі «права вольнага выхаду» з Савецкага Саюза.

### 8 кастрычніка

**1959.** У Мінску нарадзіўся мастак і дызайнер Дзмітрый Сурскі. Старшыня Беларускага саюза дызайнераў. Аўтар вядомых плакатаў 1980-х гадоў: «Эканомія ў быце», «Кадры вырашаюць усё», «Хлеб усяму галава».

### 9 кастрычніка

**Сусветны дзень пошты.**

**1924.** У вёсцы Кунтараўка Веткаўскага раёна на Гомельшчыне нарадзіўся Аляксандр Аксёнаў, палітычны дзеяч БССР. Узначальваў беларускі камсамол, быў пасломм СССР у Польшчы, міністрам унутраных справаў і старшынёй Савета міністраў БССР. Кіраваў Дзяржаўным камітэтам СССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні падчас Перабудовы.

**1929.** У Варшаве памёр святар, адзін з пачынальнікаў беларускага хрысціянскага руху Адам Лісоўскі. Ураджэнец вёскі Каранды Смаргонскага раёна, Адам Лісоўскі намагаўся беларусізаваць касцёл, пераклаў на беларускую мову часткі Новага Запавету: Апакаліпсіс, Апостальскія дзеі, лісты Святога Паўла. Арыштоўваўся савецкімі ўладамі, трапіў у Польшчу ў выніку абмену палітвязнямі ў 1924 годзе.

### 10 кастрычніка

**Сусветныя дні псіхічнага здароўя**, а таксама **зроку** і **барацьбы са смяротным пакараннем.**

**1929.** У вёсцы Станькава (Дзяржынскі раён Мінскай вобласці) нарадзіўся знакаміты партызан-разведчык, Герой Савецкага Саюза Марат Казей. Гэтае званне ён атрымаў пасмяротна за здзейснены подзвіг у траўні 1944 года каля вёскі Хараміцкія Узденскага раёна. Казей адзін вёў перастрэлку з фашыстамі. Калі скончыліся патроны, і вораг падышоў да яго ўшчыльную, партызан падарваў сябе гранатай. Па адной версіі, разам з немцамі. Паводле другой — толькі сябе, каб у акупантаў не было нагоды для карнай аперацыі ў вёсцы. У Мінску ёсць помнік Марату Казею і вуліца яго імя.

**1939.** СССР перадаў Літве Вільню і Віленскую вобласць.

### 11 кастрычніка

**Міжнародны дзень дзяўчынак.** Мэта адзначэння — звярнуць увагу на іх сацыяльныя праблемы.

А таксама **Дзень камінг-аўта.**

**1919.** У Вільні адбылося ўрачыстае адкрыццё Універсітэта Стэфана Баторыя.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# Дажынкі з «Амерыканкай»

**Кніжная серыя «Амерыканка», якая запомнілася чытачу не толькі яскравымі выданнямі амерыканскіх кніг па-беларуску, але і пазітыўнымі краўдфандыгкампаніямі, распачала чарговы збор сродкаў на ulej.by.**




Новая кампанія пад іранічнай назвай «Дажынкі з “Амерыканкай”» мае на мэце «сабраць ураджай» у 1000 рублёў на выплату аўтарскіх правоў за перавыданне культавай кнігі Курта Вонегута «Бойня №5, або Крыжовы паход дзетак».

Курт Вонегут быў адным з сямі амерыканскіх ваеннапалонных, якія перажылі бамбардаванне Дрэздэна авіяцыяй саюзнікаў у лютым 1945 года. Ён і яго таварышы ацалелі, бо схаваліся ў сутарэнні. Праз чвэрць стагоддзя пісьменнік увасобіў гэты досвед у адным з найважнейшых твораў сусветнай літаратуры XX стагоддзя. Пераклад Паўла Касцюкевіча, які выйшаў друкам у 2010 годзе, добра вядомы і любімы даўнімі аматарамі беларускай літаратуры. Цяпер ён выходзіць у абноўленым выглядзе.

«Ад моманту першага выдання прайшло амаль 10 гадоў. Як выявілася, гэта дастатковы час, каб у беларускамоўнай кнізе з’явілася абсалютна новыя чытачы. Прынамсі, падчас мінулай краўдфандынгавай кампаніі мы мелі дастаткова передзамоваў на Вонегута, — тлумачыць рэдактарка серыі Марыя Мартысевіч. — З самага пачатку пераклад “Бойні №5” ствараўся для “Амерыканкі”, але заснаваць серыю ў 2010 годзе было тэхнічна немагчыма. Цяпер мы перавыдаём Вонегута ў стылі “Амерыканкі”: з новай вокладкай, якую прыдумала дызайнерка Валерыя Шкляр, і ў нашым ужо фірмовым кішэнным фармаце. Тэкст перакладу таксама будзе абноўлены, але зусім нязначна».

«Амерыканскія дажынкі» зробяцца своеасаблівай «зайцу радасцю перад халоднаю зімой». Усе кнігі серыі (апроч раману Кена Кізі, наклад якога даўно разышоўся), можна будзе передзамовіць па коштах, ніжэйшых за крамныя. А таксама гэта апошняя магчымасць займець клубную картку «Амерыканкі», якая гарантуе бонусы і зніжкі ў наступныя гады існавання серыі. «На 2020 і 2021 гады запланаваныя прынамсі чатыры новыя кнігі, — кажа Марыя Мартысевіч. — Дзве пазіцыі пакуль не варта агучваць, бо няма канчатковай дамоўленасці пра аўтарскія правы. А вось яшчэ на дзве кнігі капірайты ўжо не патрабуюцца. Гэта зборнік апавяданняў О’Генры, над якім працуе адразу шэраг перакладчыкаў, і “Вялікі Гэтсбі” Фрэнсіса Скота Фіцджэральда, працу над якім завяршае Сяргей Матырка».

**Мы перавыдаём Вонегута ў стылі «Амерыканкі»: з новай вокладкай, якую прыдумала дызайнерка Валерыя Шкляр, і ў нашым фірмовым кішэнным фармаце**

У кампаніі «Дажынкі з “Амерыканкай”» ёсць два партнёрскія лоты. З дапамогай Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі мецэнаты змогуць перадаць камплект кніг серыі ў бібліятэкі краіны, якія не маюць магчымасці самі закупляць кнігі. А моўная школа EN Discovery прадстаўляе сертыфікат на адну сустрэчу ў размоўным клубе для ўсіх новых чытачоў Курта Вонегута.

Падтрымаць перавыданне «Бойні №5» можна праз краўдфандынгавую платформу ulej.by.

Незалежная кніжная серыя «Амерыканка» аб’ядната творы культавых пісьменнікаў Паўночнай Амерыкі пра свабоду і чалавечую годнасць. Перакладчыкі бясплатна пераклалі ўлюбёныя творы, бо хочуць папулярызаваць важныя для сябе ідэі на сваёй мове. Раней у серыі выйшлі наступныя кнігі:

**Кен Кізі. «Палёт над гняздом зязюлі».** Пераклад з англійскай Аляксея Знаткевіча. Выданне падтрымаў мецэнат Ігар Жабароўскі, кіраўнік праектаў «Инфоурок» і «Инфолагерь». Кніга трапіла ў кароткі спіс Прэміі імені Карласа Шэрмана за 2017 год.

**Чак Паланюк. «Байцоўскі клуб».** Пераклад з англійскай Сяржа Мядзведзева. Перакладчык атрымаў прэмію «Дэбют» у намінацыі «Пераклад» яшчэ ў 2013 годзе. Праз 5 гадоў выданне прычакала накладу.

**Чарлз Букоўскі. «Чытво».** Пераклад з англійскай Ігара Кулікова. Выданне падтрымаў мецэнат Міхась Баўдзей. Кніга трапіла ў кароткі спіс Прэміі імя Міхала Анемпадыстава за найлепшае афармленне кнігі (аўтар вокладкі — Анатоль Лазар) і ў доўгі спіс Прэміі імені Карласа Шэрмана за 2018 год у намінацыі «Проза».

**Маргарэт Этвуд. «Пенелапіяда».** Пераклад з англійскай Вольгі Калацкай і Марыі Мартысевіч. Выданне падтрымала Беларуска-амерыканскае задзіночанне Вашынгтона (BAZA-DC).



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1605

Падпісана да друку 04.10.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб’ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.